# БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР



— Штомесячная дзіцячая часопісь —

№ 7

1925



— ОРГАН —
ЦК ЛКСМБ і Наркомасьветы БССР

АТ

# ЗЬМЕСТ.



---



Галоўлітбел № 11566

Менск, 2 друк. БДВ. № 4068. (2000.)




ШТОМЕСЯЧНАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ
ОРГАН
ЦК ЛКСМБ І НАРКОМАСЬВЕТЫ БССР

— АДРАС РЭДАКЦЫІ: —
Менск, Пляц Волі, Наркомасьветы БССР,
тэлефон № 443.

№ 7. ЛІПЕНЬ 1925 г.




# САМАЯ ГАЛОУНАЯ РОЛЯ
## ПІОНЭРАЎ НА ВЁСЦЫ.

*(З прамовы Старшыні Савету Народных Камісараў т. Я. Адамовіча на Ўсебеларускіх курсах піонэр-працаўнікоў).*

Агульная задача нашай партыі і комсамолу ў працы на вёсцы—гэта ўтварыць новы слой людзей—піонэраў. Пры дапамозе ўсіх культурных сіл краіны, нам трэба шчыра ўзяцца за працу між гэтых новых людзей, якія ўжо нарадзіліся ў вёсцы і старацца зрабіць з іх добрых грамадзянскіх працаўнікоў—сялян. Поруч з гэтым трэба на кожным кроку пры дапамозе піонэраў і разам з імі бязупынна працаваць над падняцьцем нашай сельскай гаспадаркі, памятуючы, што гатага мы зможам дасягнуць толькі ў самым цесным хаўрусе сялян з рабочымі.

Калі толькі мы гэта зробім—тады мы зможам поўнасьцю правесьці ў жыцьцё нашы неадкладныя задачы працы ў вёсцы. Тады толькі мы зможам правесьці і роўнапраўе нацыянальнасьцяй і роўнапраўе мужчын і жанчын.

Прыцягваючы ўвагу сялян да атраду, зацікавіўшы іх атрадам, мы зможам праз гэту маленькую ячэйку новых людзей арганізаваць соцыялізм і комунізм. Гэтага апошняга ні на адну хвіліну ня трэба забывацца як піонэрам, так і іх кіраўнікам.

Ленінская партыя і комсамол усю сваю ўвагу зварачаюць на сваю зьмену—піонэраў. Наша зьмена павінна выйці ў жыцьцё на шлях змаганьня стала загартаванай рэволюцыйным вопытам і традыцыямі слаўных сваіх правадыроў. Вучыцца і рыхтавацца да змаганьня, якое яшчэ ня скончана. Вучыць і організоўваць у свае шэрагі ўсіх пролетарскіх дзяцей.

Вось асноўная і самая галоўная роля нашай піонэрскай організацыі. Гэту пачэсную ролю—ролю організатара новага сьвету—піонэры з гордасьцю перад працоўнымі павінны выканаць.






(*Апавяданьне*).

Па вузкай палявой дарозе шлёпалі і хрумкалі коні. Навокал шырокія палі жытнія ціха драмалі ў цёмна-сіняй багне ліпнёвага вечару.

Коні шлёпалі аб перасушаны пыльны пясок, што пасярод дарогі. Хвілінамі толькі скрозь маўклівую цішу засьмяецца ці гойсьне на клячу сваю хто небудзь з коньнікаў.

— Гэй, паганяй, Рыгор!

— Так, позна ўжо,—падхапіў другі.

— Но! Айда!!

— Варушы, гнеды!

— Але-ж, воўчае мяса!?

Нехаця, але разварушыліся і ўзьвіліся коні. Толькі застагнаў пясок пад нагамі, зашастаў вецер каля загонаў жыта. А здалёк здавалася, што печ ад цягніка адарвалася і мчыцца ў палі шырокія з вузкіх сваіх рэек. Мчыцца з усіх сіл жалезнага размаху, нібы нешта страшнае гоніцца за ёю. Сапе яна, як бор шуміць, харкае з храпаў сваіх клубкі дыму пыльнага.

А коньнікі ляцяць. Весела, мусіць. Ды і што-ж так ехаць, сунуцца, як свіньня ў поле. На тое-ж на начлег едуць. Ды і калі лепш праедзеш. Удзень хто небудзь убачыць, бацьку данясе, а там—адказ... Цяпер-жа ніхто ня бачыць за выключэньнем безьязыкага месяца. Але месяц чалавек свой, сябра й прыяцель сінявокіх начэй. А хто большы сябра месяца й начэй—яны начлежнікі. Ну, значыць, усё ўпарадку, за ўсё хлапцы спакойны. Можа хіба пазайздросьціць хлапцом? Бо, вядома, трохі неяк брыдкавата яму, лысаму: сам чуць цёгаецца, чуць з нагі на нагу пераступае па кужэльных хмарках, а яны, жэўжыкі малыя, так гойсаюць па сініх хвалях палёў.

— Цьсьсь!

— Тпрру-у-у, гняды!

— Так, братцы, абрыдла ляцець,—заўважыў адзін з іх,—лесам хай памалу пройдуць.

Недалёка, праз гоняй двое ад іх, выразаўся цёмнай зьлітаю глыбаю лес. Насупіўся і пахінуўся лес да жытніх загонаў, што канчаліся тут.



Лес абхінаў загоны паўкругам. Падаваўся і навальваўся на іх сваім вялічэзным целам і думаў: што мне з вамі раўняцца, што вы супраць мяне—захачу, прыцісну і, як машкару, разатру вашыя сочныя грудзі, налітыя жытнім вінам. Касіўся лес і на ціхую, спакойную халупку, што непадалеку тут жа ў зямлю ўехала сваім лапавухім падстрэшшам. Халупка гэта была мясцовага палясоўшчыка. Адна-адзінока паглядала яна на цёмны лес і блакітную высь сваім

камінком. Нічога ёй больш ня было відаць. Да і чым больш цікавіцца ёй. Маўчы, калі ніхто не чапае: гэткі манер узяла яна. А што лес скоса глядзіць на яе—дарма. Ня ўпершы раз. Затое зоры ўсе рассыпалі на яе свае брыльлянцістыя пацеркі, адарылі шчодра яе сваім прыгожым і ласкавым поглядам. І месяц з узвышша часамі заскочыць і прысядзе на цёмна-шэрую страху, пагуляе, пабегае ды зноў кувырнецца за хмарку, дасьць нырца, як хлапцы купаючыся, і ня відаць доўга яго. Спрытны гэты месяц. Што і казаць!

— Тут, хлапцы, трохі цішэй, бо сабака ўчуе, на што, каб брахаў на нас,—падаў голас Валодзік, калі параўналіся з хаткаю палясоўшчыка. Ціха пад'ехалі да лесу і схаваліся ў яго абоймах. Нібы зглынуў лес хлапцоў.

— А неяк страшнавата...—прамовіў Рыгор сябром і кашлянуў хрыпла, каб паказаць, што гэта так сабе ён сказаў.

— І хлапец-жа з цябе!—зьдзівіўся Валодзя.

Рыгор адчуў сорам і пачаў напяваць пад нос сабе:

А ў бары, бары
ды гасьцінічак.
Ехалі тудой
тры начлежнікі...
Гэй, гэй! ехалі туд-о-о...

— Стой! лічыць ня ўмееш! пяць, а ня тры,—перабіў яго Валодзя.

— Гэта-ж ты ня ўмееш, Валодзя-смалодзя. Ну, колькі на руках пальцаў? Ага, папаўся!—здаволіўся Рыгор запытаньнем.

— А ведаеш колькі ў атрадзе чалавек?—зноў запытаўся Рыгор.

— Колькі-ж?!—100,—адказаў Валодзя.

— Ха-ха-ха—вось табе й маеш!—паехаў са сьмеху Рыгор.—А яшчэ і начальнікам быў, як атрад залажылі ў школе!

— Дык я ведаў тады...

— Ну, каб ведаў—атрад-бы не раскідаўся.

— Ці-ж я вінаваты—Міхась той усяму вінаваты, што ня прыехаў да нас другі раз, не памог нам,—адказваўся Валодзя.

— Ха-ха-ха! — рагаталі хлапцы. — Вось зьбіў ты спанталыку Валодзю.

— Але хутка аб гэтым забыліся. Перайшлі на другое, а там, трэцяе і так бясконца.

Вясёлая компанія.

Прабавалі і хлапцы з пачатку вясны езьдзіць у гурт, але нічога ня вышла. Там усё больш-шыя за іх, старыя; косяцца яны на хлапцоў, ня хочуць прымаць іх у сваю компанію. „Ня хочуць—ня трэба“, парашылі хлапцы і больш з старымі ніякай хэўры не заводзяць.

Компанія складалася з пяці чалавек: Сымон Аўдоцін, Рыгор Тодараў, Валодзя, Кастусь Галадрыгавы і Мікіта Дзівакоў. Сямейка хоць бы што. Па гадох нават падабраліся. Бо ўсіх малакасосамі абзываюць старэйшыя начлежнікі.

Сягоньня хлапцы накіраваліся за лясок у паплавы, што да саўхоскай сенажаці прылягаюць.

* * *

Папускалі хлапцы ў кусты коняй, папрыпутвалі іх збольшага, каб не паўцякалі ў аўсы, а самі пашлі ў лясок аддыхаць.

— Агню, агню, хлапцы, навалім аж пара пойдзе з балота,—клікаў Мікіта Дзівакоў другіх, як прышлі.

— З балот, як з балот, а з цябе напэўна,—паддакнуў яму Рыгор. Мікіта вельмі любіў агонь на начлезе. Ніколі не прапусьціць ён ночы, каб не разлажыць полымя. А ля агню грэецца Мікіта ўсю ноч. Сыплюцца на яго іскры, а ён хоць бы што. Толькі як зусім ужо дойме да жывога, тады заварушыцца Мікіта. Прапаленых дзірак на начлезе ў яго ня зьлічыш. Свае новыя анучы на днях ушчэнт спаліў. Сушыць палажыў, ды й забыўся, заснуў. Цяпер бедны Мікіта ў адных лапціках езьдзіць, што сам пляце ўдзень на балоце. На плячох Мікіты чуць трымаўся (лепш усяго чуць сам ён трымаў) кажух, што бацька пакінуў яму, як адыходзіў на вайну. У гэтым кажусе і выгадаваўся Мікіта. У ім ён гаспадаром стаў. Бо Мікіта-ж цяпер, як ні кажы—гаспадар.

Некалькі хвілін, і нашы начлежнікі ўжо разам саплі, як з кавалёвага мяшка, на чуць завад вагоньчык.

— Палі другую!

— Трасца ўжо ёсьць.

— Ах, ах, вось і здайся на іх,—вохкаў Мікіта.

— Пашлі вон усе!

Мікіта сеў каля дроў адзін.

Соп, соп, як паравоз у часы вайны пад гэру, і нічога ня вышла.

Прышлося хлапцом галець сягодня без агню. Нічога не парадзіш. Прабавалі, праўда, яшчэ з губы высякаць. Нічога ня вышла, як не майстраваўся Мікіта. Нават цэры *) знайшоў, ды гнілую нейкую, не загарэлася.

*) Сухая губа, што ў дупляватых асінах заводзіцца.

— Хоць яе халера!—вылаяўся напасьледак Мікіта і прылёг да хлапцоў пад шырокім раскірацістым дубам.

Хлапцы доўга ня спалі. Ды і як было заснуць у такую прыгожую ноч. Навакол так пекна, а тут сон. Цішыня стаяла поўная. Аднекуль рэха кацілася па лесе ад бязупыннага плачу савы. Плакала яна, бедная, усхліпвала і зноў плакала. А непадалёку ад хлапцоў яшчэ ня спаў дудар ляснога царства—салавей. Адзін на волі раскашаўся ён шырокім сваім разгулам. Голас яго песьні сярод маўклівай цішы разьліваўся, каціўся ўшыр і ўдоўж па лузе і ў паветры. Месяц высока ўзышоў на неба і атабурыўся над самым лесам, трошкі ў бок ад хлапцоў. Але прагаліна, каля якой ляжалі хлапцы, давала магчымасьць ім ясна і добра наглядаць за месяцам.

— Кажуць-жа, што плямы на месяцы—гэта Авель і Каін,—я чуў ад старых,—абазваўся Сымон Аўдоцін.

— А настаўнік, што казаў?!—зьдзіўлёна прымеціў Валодзя.

— Настаўнік!?

— Забыўся ўжо?

— А-а-а – ведаю!

Сымон то, праўда, ня ўспомніў, што казаў настаўнік, але неякавата было прызнацца ў тым, што забыўся. Затым і вырашыў ён: лепш сказаць, што ведае.

— Што, а вы думаеце месяц ня жывы?!—уставіў сваё слова і Мікіта.—І-га-а, яшчэ што ён вычварае! Вось ляж галавою на поўдзень да месяца—пабачыш...

— Што пабачыш?

— Будзеш ведаць што.

Хлапцоў гэта навіна вельмі зацікавіла. Пачалі прыставаць да Мікіты, каб расказаў ім аб гэтай тайне месяца.

— А было такое здарэньне, мне расказваў дзядзька Цімох,—пачаў Мікіта.—Неяк аднаго разу ішоў ён позна з мястэчка. Ішоў, ішоў ды стаміўся. Стаміўся ды лёг, значыцца, аддыхаць на поплаве каля царквы. Лёг ды заснуў на месцы. Прачнуўся апоўначы. Вельмі-ж холадна стала, бо быў у аднэй рубашцы. І вось прачнуўся і пашоў дадому. Хадзіў, хадзіў, а дому—як ня відаць, так і ня відаць. А ведаеце-ж ад царквы да дому ўсяго паўвярсты якія, ды й таго можа меней. Толькі як разьвіднелася, даведаўся дзядзька дзе ён. За пятнаццаць вёрст адышоў ад дому. Чэрці, кажа, вадзілі, што галавою супраць месяца спаў,—кончыў Мікіта.

— Ат, чэрці! У яго галаве тады чэрці завяліся,—адказаў Сымон.

— Ну, вядома, з мястэчка ішоў!—падцьвердзіў і Валодзя.

Паступова сон пачаў зморваць хлапцоў. Некаторыя ўжо храплі, задраўшы галавы ўверх. Ня спаў толькі яшчэ Мікіта з Валодзям.

А ноч ціха паўзла на захад. Па зоркам і месяцу відаць было, што ўжо за поўнач пераваліла. Усё ў лесе змоўкла жывое. Усё пачало адпачываць.

— Валодзік, давай папрывязваем ім ногі, пойдзем паглядзім коняй і ляжам,—ціха ужо нават праз сон аказаўся Мікіта.

Валодзя згадзіўся.

Хлапцы хутка паразьвязвалі аборы сваіх таварышоў і пазьвязвалі іх адна за другую. Такая мода ўжо не ўпяршыню. Бывае за гальлё прывяжуць, калі зручна дзе. Назаўтра пацеха ў хлапцоў, што і казаць, калі той устане і гопне, як сноп, носам, вобземлю. Ды ці такія толькі штукі выкідаюць хлапцы. Яшчэ гэтака—сьвяньціся, як кажуць. Асабліва, як у гурце, з старэйшымі начлежнікамі. Там ужо хлапец з дзяўчынаю калі захоча разам легчы, то ўцякае ад гэтых жэўжыкаў за трое ганок у гушчар. Бо заўседы, або ногі іх пазьвязваюць, як моцна заснуць, або вобруці схаваюць, што тыя, бедныя, цэлую раніцу галовы круцяць, або агню накладуць каля іх.

Мікіта з Валодзям зрабілі сваю справу і накіраваліся ўздоўж лесу, каб паглядзець коняй.

— Ня чуваць, брат... ваўкі іх ведаюць дзе яны пайшлі,—прамовіў Валодзя.

— З вечару накіраваліся ў гэты бок, значыцца, тут недзе.

— Ш-ш-ш-сьсь,—супыніў Мікіта Валодзю,—нешта зашастала...

— Коні пашлёпалі...

— Няўжо што спудзіла!? бяжэм, толькі аглядацца, што тут такое...

Хлапцы цішком, туляючыся, пабеглі на шлёпат.

— Валодзя! Вунь нешта белае.

— Што, дзе?

— Вунь, вунь! недалёка ад рэчкі ў рагу лесу.

Хлапцы супыніліся, прыслухаліся і агледзеліся.

— Так, так...—убачыў і Валодзя. Падыдзем бліжэй.

— Валодзя, цыганы... пэўна коні...

— Ляснулі... Што-ж рабіць? бяжэм па хлапцоў скоранька ды гуртам пабяжым шукаць.

Бяз духу прымчаліся хлапцы назад. Натузалі, нашалёсталі на хлапцоў. Хлапцы ўскочылі на ногі і ўгалёп за імі. Але тут-жа ўсе ў траіх зарылі насамі... Валодзя з Мікітам і забыліся з пэнду, што панавязвалі сваіх таварышоў за ногі. Падняўся цэлы вархал. Трэба бегчы, а тут хлапцы разутыя. Ды Сымон нават нос аб корч разьбіў. Але аглядацца ня было калі. Раз, два, бяз злосьці хлапцы разрэзалі аборы, падхапілі іх у рукі і галёпам да таго месца, дзе ўперад нешта шлёпалася.

Папрыбягалі.

— Фыркаюць... Цьсь-сь...—супыніў Мікіта.

Агледзеліся.

— Вунь, коні,—паказаў пальцам Рыгор.

Падбеглі. Коні хадзілі ў кустох, фыркалі і аглядаліся на бакі. Убачыўшы хлапцоў, яны раптам паднялі галовы, нагастрылі вушы і чуць ня зьбіраліся махнуць.



— Дзядзечка, так і так...

— Гнеды!—аказаўся Валодзя. Конь счуў знаёмы голас, апусьціў галаву і пачаў па першаму шчыпаць травіцу.

Начлежнікі падышлі блізка, палавілі. Але ня ўсіх знайшлі. Рыгоравага каня ня было.

— Так і будзе... Тут цыганы... хутка ляцем да палясоўшчыка, папярэдзім, каб ён вартаваў на гэтай дарозе, а самі ў вёску. Гэта нядаўна было,—прапанаваў Мікіта.

Хлапцы паўскаквалі на коняй (Рыгор плачучы сеў у дваіх з Валодзям) і паляцелі.

Каля стражніка спаткаў іх сабака. Нарабіў ён ляманту, крыку—бяда. Стражнік сам вышаў, як учуў брахыньне.

— Дзядзечка, так і так...—пачаў Валодзя,—тут, у гэтым лесе, цыганы... Каня Рыгоравага ўкралі... Мы на начлезе былі... Павартуйце тут, а мы дамоў аказю дамо... Што вы? Гм... Калі іх чэрці прыгналі? Учора ня было. Піонэры толькі прыехалі з гораду і каля кудры ў лесе застанавіліся.

Піонэры! — зьдзівіліся ўсё.—А дзе-ж коньбы дзеўся?

— Да яно так і ёсьць, каб вас нараду ня было, чорт ня ўзяў, ён ходзіць там,—намахаў рукою, вылаяўся палясоўшчыкі паціснуўў у хату.

— Сьмела едзьце, ніякіх цыганоў там няма,—чуўся яшчэ голас палясоўшчыка з-за дзвярэй.

— Эгээ!—дык вось яно дзе сабака закопаны.—Але-ж конь...—дзівіўся Рыгор.

— Хлапцы, чаго стаяць, едзьма туды,—прапанаваў Валодзя,—конь, напэўна, дзе-небудзь адышоўся і ходзіць сабе.

Усе згадзіліся і завярнулі коняй.

Ужо пад'яжджалі хлапцы пад канец лесу, як прыкмецілі нешта чорнае ідзе супраць іх з кустоў.

— А, каб яго ваўкі зьелі, гэта-ж конь, вось воўчае мяса!—крыкнуў з радасьці Рыгор.

Конь тым часам нахадзіўся сабе ўдоваль ды цёгся дамоў, як пабачыў, што нікога ў кустох ня чуваць. Яму й ня шум баравы, што нехта там недзе яго шукае.

— Хлапцы, паедзем паглядзім,—прапанаваў Сымон.

— Чаму-ж не !—падхапілі іншыя і рушылі каля лесу па прабітай сьцежцы.

Ужо заметна пачало віднецца, калі пад'яжджалі хлапцы да „цыганскага“ табару. Ачнуліся птушкі і зачырыкалі з сьвежымі сіламі сваю песеньку. А змрок патроху распускаўся, падаваўся што раз болей у цемныя куткі, а потым уцякаў і адтуль.

— Эгэ-э... тут нешта ня тое... піонэры...— заўважыў Рыгор, як пад'ехалі хлапцы да палаткі.

Але чаго яны тут і адкуль?..

Ужо ясна стала асьвечвацца палянка на краю лесу. Патухалі ў небе зоркі,

— Раз піонэры—ідзем да іх,—прапанаваў Валодзя.

Падышлі.

— А-а-а... Міхась... — закрычалі раптам усе.

— Здароў, здароў, браце. Як-жа й калі зьявіўся. Вось яно што... а-а-а вартуеш?

Хлапцы жыва паздаровaліся.

— А вось прыехалі да вас... пабудзем..

І раптам ажыў лес...

З палаткі павыходзілі піонэры.

Пытаньні пасыпаліся роем.

З-за лазовых кустоў ужо усьміхнулася сонца чырвоным акрайцам і распусьціла свае шаўкавістыя косы ў сочных ад расы лістках дрэў. Між прагалі нак лесу забегалі чырвоныя зайчыкі.

Хлапцы хутка асвоіліся з новымі сябрамі і адчулі ўсе вялікую радасьць і прыхільнасьць адзін да другога. Піонэры пачалі распытваць хлапцоў аб гэтай мясцовасьці, аб іх вёсцы. Міхась некалькі разоў папрасіў прабачэньня, што ня мог раней замацаваць з імі сталай сувязі.

— Нічога, нічога,—адказвалі хлапцы,— Цяпер зноў будзе ў нас атрад.

— А ці надоўга-ж вы прыехалі,—спыталі хлапцы.




— А пабудзем пакуль хваціць у нас харчоў. Так тыдняў два,—адказвалі піонэры.

Хлапцы, добра абгледзеўшы ўсю палатку і запрасіўшы піонэраў сягоньня ўвечары да сябе ў вёску, накіраваліся дамоў поўныя радасьці, надзеі і веры.

Па дарозе зазьвінела піонэрская песьня, якую хлапцы развучылі яшчэ з вясны:

Зьзяйце агнямі,
сінія ночы!
Мы піонэры—
Дзеці рабочых.
Блізіцца эра
сьветлых
гадоў.

Кліч піонэра:
Заўжды будзь гатоў

**А. Якімовіч.**

**(Працяг будзе).**



# ПІОНЭРСКАЯ ТВОРЧАСЬЦЬ.

## Будзь на варце.

Хай панства шалее, скрыгоча зубамі,
Хай зьвер таўстапузы крычыць,—
Мы скінем іх зьдзекі і самі панамі,
Ў краіне сваёй будзем жыць.
Хай вецер аб волі шуміць і бушуе,
Грыміць няхай гром і маланка страляе...
— Вон з нашай краіны, буржуі!
Тут сьмерць вас, пагібель чакае.
Ня сьпі, піонэр: будзь заўсёды гатоў.
Да змаганьня рыхтуйся і ведай адно:
Задушыць трэба ўсіх нам паноў-груганоў,
Разагнаць трэ' на захадзе ноч...

Піонэр *Е. Хаета.*

## Янку Купале.

На жалейцы йграў пясьняр,
Йграў гадоў ня мала,
Беларускі наш гусьляр
Луцэвіч—Купала.
Сьпяваў аб нівах сенажацях,
Апяваў наш жорсткі хлеб.
—Пойдзем к сонцу, пойдзем, брацьця,—
Звала звонкая жалейка.
Эх! зьвіні-ж, мая жалейка,
Песьняй нашаму баяну.
Глянь: над нашаю зямелькай
Дзень цудоўны новы глянуў.

*Г. М. Баркан.*

Піонэр 1-га атраду імя КІМу, сябра Полацкай філіі «Маладняка».

## Піонэры, шагам марш.

Піонэры, шагам марш!
Загрымі ты, бубен, наш.
Ўсе за намі, дзеці, ўсьлед,
Пойдзем з вамі ў новы сьвет.
Піонэрам як ня быў,
Дык у цэркаў я хадзіў.
А цяпер стаў піонэрам
У папоў, багоў ня веру.
Даўней лаяўся і біўся—
Цяпер гэтае забыўся.
Еў гарбузікі й курыў—
Адным словам: дурням быў.
А цяпер зусім ня тое,
Ужо у думках, брат, другое:
Чытка, лекцыя, атрад
І ў зьвяне сваім загад.
Гэй-жа, братцы, шагам марш,
Загрымі ты, бубен, наш!

Піонэр зьвяна «Бязбожнік»,
Старобінскага атраду, *Чарнушэвіч.*

## Песьня гудкоў.

Чатыры гадзіны... Спушчаюць у дол Ільліча.
Загудзелі гудкі ўсіх заводаў.
І астатні «Прашчай» зьліўся ў песьню адну
Ад далёкіх і блізкіх народаў.
Споўнім, бацька, заданьні твае!
Запяялі гудкі Беларусі
Бацька! сілы ўсе мы свае
Аддамо на карысьць беднаты Беларусі.
Гэй, бацько! Гэй Ільліч!
Чуцен водгук гудкоў Украіны.
Мы папэрлы Махно, мы папэрлы врагів,
Мы памерці гатовы за шчасьце краіны.
Дружна з сьцягам чырвоным
Мы пойдзем ўсе
Па шляху, што абліты ўвесь сонцам.
Ўсіх працоўных, Ільліч, прывядзем
Да Кастрычніка, волі і сонца.

Піонэр *Адгалос.*

## Нашы законы.

(*Для колектыўнай дэклямацыі*).

За людзей працоўных справу,
За заветы Ільліча—
Мы гатовы на змаганьне
Кожны міг і кожны час.
Слухай, брат, ты наш старэйшы
Комсамолец, Комуніст!
Памагаць табе ідзем мы
Распаліць комун агні...

Знаем мы: моц наша й сіла
Ў аб'яднаньні ўсіх дзяцей.
Піонэр!—ты іх таварыш,
Разам з імі мы ідзем.
Будзем прыкладам у працы,
У атрады ўсіх зьбіраць.
Усе дзеці будуць з намі.
КІМу зьмену рыхтаваць.

Піонэр імкнецца к ведам—
Ўсе за кніжку, як адзін.
Помні Леніна заветы:
Мы з навукай пабядзім.

*А. Чурылавец.*



# ЛЯВОНКА ПІОНЭР



## П'еска у 3-ох актах.

**Хто прымае ўдзел.**

*Лявонка*
*Янка*
*Міхась*
*Марылька* — Піонэры.

*Кацярына*
*Грышка*
*Язэп* — Пастушкі

*Сьцяпан*—бацька Лявонкі, чалавек гадоў 35—40.
*Агата*—матка Лявонкі, таксама ўжо пажылая кабета.
*Паўлінка*—суседка.

**1-ы акт.**

Сцэна ўяўляе з сябе простую сялянскую хату, якую можна пабудаваць як хто захоча. Раніца. Лявонка зьбіраецца ў школу. Матка рыхтуе сьнеданьне. Бацька канчае даплятаць лапаць.

Дзея 1-я.

**Матка**: Лявонка, у школку ўжо чужыя дзеці бягуць, а ты яшчэ ня сьнедаў.

**Лявон**: Зараз. Я толькі ўпарадкую торбу з кніжкамі.

**Бацька**: Што гэта я чуў ад хлапцоў, што ты гультаішся вучыцца (прыпыніўшы плесьці лапаць). Ты, брат, глядзі, бо як я даведаюся добра, будзе лупцоўкі (нібы страшыць, трасучы лапцем).

**Лявон**: Ня праўда, тата. Табе салгалі. Піонэры заўсёды стараюцца добра вучыцца (садзіцца за стол і есьць блін з малаком).

**Бацька**: Ці-ж ты ўжо ў гэтым хаўрусе?

**Лявон**: Ды няўжо-ж не. Чаму-ж мне ня быць?

**Бацька**: З якога-ж гэта ты часу асьвянціўся ў гэтыя пінаеры?

**Матка**: (перабівае) Я бо бачу—хрысьціцца пакінуў ужо, як той кажа... Гм...

**Бацька**: Вот жэўжыкі, гэта-ж думаць... дай ты, баба, рады ня моліцца й ня хрысьціцца. Як-жа яны на божым сьвеце будуць жыць?



**Лявон**: (ужо сабраўшыся да школы) Будзем жыць. На тое-ж мы й маліцца кінулі, каб лепей жыць на сьвеце стала.

**Бацька**: Мусіць, баба, у школу трэба ня пусьціць яго, як ты думаеш?

**Матка**: (абапёршыся да печкі) А бог яго ведае. Бачыш, усе цяпер гэткія.

У гэты час у хату ўваходзяць таварышы Лявона: Янка, Міхась і Марылька.

Зьява II-я.

**Янка**: Ну, хадзем, чаго стаіш надзьмуўшыся, як кот на крупы?

**Лявон**: (пазіраючы задуменна ў зямлю) Куды там... хутка зусім ня пусьцяць бацькі...

**Міхась**: Хто ня пусьціць?! чаму?

**Лявон**: А што ў піонэры запісаўся.

**Янка**: Ай, слухаць ёсьць што!

**Міхась**: Кінь, мала што табе бацькі скажуць, хадзем!

**Янка**: Напэўна, бацька твой яшчэ ня ведае, што наша піонэрская організацыя вучыць нас усяму лепшаму?

**Бацька**: Чаму-ж лепшаму яна вас навучыць, як ні бязбожніцтву.

**Марылька**: Вось вы, дзядзька, лепш прыдзеце на наш сход, пабачыце, тады будзеце гаварыць чаму нас вучаць. Ды мы калі небудзь паклічам вас знарок.

**Міхась**: А так, нічога ня ведаючы, гаварыць нельга.

**Лявон**: Будзе ўжо спрачацца, хадзем, а то спозьнімся (усе выходзяць, застаецца толькі бацька й матка).

**Бацька**: Чула, Агата?

**Матка**: Ды няўжо-ж не!

**Бацька**: Ну, а што з гэтага будзе, скажы ты на міласьць бога?

**Матка**: Нічога я тут не разьбяруся (паціскаючы плячыма)

**Бацька**: Ты ня ведаеш і я ня ведаю. Але баюся, каб дабро з гэтых падшыванцаў вышла (кідае лапц й выходзіць).

У хаце застаецца адна матка, якая порацца з сваімі справамі на прыпячку, капошыцца ў чыгунох, папраўляе іх і г. д

**Матка**: Эх! ці ведала я як раджала. Гэта-ж, як той кажа, чорт ведае што, нячысты ўбіўся і збаламуціў... Нават за сына, як той кажа, ня прызнаеш свайго. Але на ўсё божая воля, можа яшчэ, як той кажа, ён і перайначыцца. Убярэцца ў розум, дык, як той кажа, нябось—свая вош укусіць, паразумнее.

У гэты час уваходзіць суседка Паўлінка.

Зьява III-я.

**Паўлінка**: Добры дзень у хату табе!

**Матка**: Дзень добры, кумачка, сядай, калі ласка.

**Паўлінка**: (садзіцца на зэдлік). Дзякую, насядзелася за раніцу, аж абрыдла. Але-ж нешта ты сягоньня ня сьвежая; ня выспалася ці мо' зноў пасварылася з Сьцяпанам?

**Агата**: Не, кумачка, ні тое, ні гэтае. Горшая бяда (паціху) здарылася...

**Паўлінка**: А-а-а, цікава ведаць, што-ж там такое?

**Агата**: А ці-ж ты ня чула?

**Паўлінка**: Не, ня чула!..

**Агата**: Мой-жа Лявонка ды ў гэтыя запісаўся чэрці.

**Паўлінка**: У якія гэтыя чэрці?

**Агата**: Ды што на нейкія „еры“ завуцца, ці ліха іх, не памятую, нeяк модна вельмі-ж.

**Паўлінка**: Гэта ня „еры“, а пінаеры, кумачка, бо й мая-ж жэўжа Марылька запісалася. Я вось і зайшла да цябе парадзіцца, што рабіць будзем. Ці добра гэта?

**Агата**: (Кідае пароцца каля печы і садзіцца каля суседкі) Што рабіць... У школку ня пусьціць. А то што добрае—меншых збаламуцяць гэтымі сваімі „ерамі“, як той кажа.

**Паўлінка**: Я чула ў турму будуць саджаць, хто ня будзе пускаць дзяцей у школу.

**Агата**: Як, за маё дзіцё ды мяне ў турму?!.. Ня можа быць!

**Паўлінка**: Ды думаеш ня могуць? Калі кажуць, дык і выкажуць. Гэтак-жа й на вайну ўсё казалі, казалі ды й выказалі.

**Агата**: Мусіць, нічога наша гаворка, кумачка, як той кажа, не паможа?!

**Паўлінка**: Да ўжо-ж. Але трэ‘, мусіць, цягнуцца, а то куры там гаршкі паскідаюць, адны ў хаце (устае й выходзіць).

**Агата**: Мо‘ ўвечары зайдзеш, паталкуем.

**Паўлінка**: Ня ведаю, але-ж кросны.

Агата зачыніла за суседкаю дзьверы, прыбрала стол, каля печы і пачала прасьці.

**Агата**: Кепска, калі ў хаце гэткая нязгода... і слухаць ня хоча, што гаворыш яму. Усё знае, да ведае!.. Усё роўна, як яму сто гадоў. Эх, як цяжка жыць на гэтым сьвеце, калі ня слухаюць цябе!

(Заслона).

### Акт II.

Сцэна—тая-ж хата. Лявонка адзін у хаце сядзіць за сталом і малюе лёзунгі, клеіць сьцяжкі і сьпявае пад нос сабе.



Цяпер-жа мы свабодныя:
Няма таей пары...
Ў атрадзе піонэрыяў
Ад ранку да зары.
(На матыў „*Бывалі дні вясёлыя*“).

Зьява I-я.

**Лявон**: Шмат яшчэ працы ў мяне, напэўна, адзін ня скончу. Дзе-ж гэта яны дзеліся (паглядае ў вакно).

**Лявон**: А-а ідуць.. Чуваць іх сьпевы! Эх! (запеў сам).

...Мы, піонэры, комуны сыны,
З намі працоўныя, мы не адны.
Сьцяг наш чырвоны затопіць зямлю,
Працы свабоднай зьяднае сям‘ю.
Палае помстаю
Наш дух юнацкі...
Мы зьнішчым зьдзекі і прыгон.
І на ўсім сьвеце працоўных дзеці
Убачаць новы ясны дзень.
(Пяецца на матыў „*Белая армія*“).

У гэты час уваходзіць няпрыкметна для Лявона матка.

ЗЬЯВА II-я.

**Матка:** Чаго гэта ты расьпеўся гэтак? Глядзі, пад вечар плакаць будзеш.

**Лявон**: Гэта-ж я рад, што хлопцы йдуць да мяне і памогуць кончыць працу.

**Матка:** Хэ, гэтакая там праца ў яго, аж памагаць трэ‘!

**Лявон:** Але, 1-ы май заўтра, а ў нас яшчэ плякаты не намаляваны.

Уваходзіць Міхась, Марылька і Янка.

ЗЬЯВА III-я.

**Усе разам**: Добры дзень!

**Лявон:** Добры дзень! Чаму-ж так доўга? (перабірае свае плякаты на стале, матка пачала іх разглядаць).

**Марылька:** Бо мы ў клюбе сваім затрымаліся.

**Янка**: А заўтра таксама-ж збор.

**Матка:** Толькі-ж атрад, клюб, а цэркаў няхай сабе. Добра, дзеткі, робіце!..

**Міхась**: Што вы, цётка, успамінаеце памёршае. Досыць ужо памучыліся вы за панаваньнем царквы. Дык няхай тады вы нічога не разумелі, да й мы хадзілі не разумелі, а цяпер чаго мы пойдзем, калі ведаем, што цэркаў не наш сябра. Калі будзем хадзіць у цэркаў і слухаць папа, дык зноў будзе цар панаваць над намі з панамі. Гэта-ж уся брація роўная: толькі, каб бедных у апцугах цьвёрда дзяржаць.

Мы—піонэры. Мы ідзем па заветам дзядзькі Леніна, правадыра сусьветнага пролетарыяту.

**Марылька:** Дзядзька Ленін памог нам пабудаваць свае атрады, каб мы маглі ў іх вучыцца, як трэба будаваць новае жыцьцё.

**Матка:** (адмахваецца) Ай-яй, не разьбяру. Перакруціўся сьвет. Не зразумець мне вас...

**Марылька**: Вось бачыце, раней, як дзяржава была панскай, дык толькі паны да розныя заможныя мелі ўладу і права, а цяпер мы, бедныя, маем. Мы цяпер вось вучымся свабодна ва ўсіх школах і нам дазваляюць цяпер.

**Матка:** Досыць, досыць, няхай цябе паралюш. Нешта ня веру я гэтаму.

**Янка:** Нічога, яшчэ пабачыце, паверыце.

**Лявон:** Ну, значыць, у нас усё гатова. Можам ісьці.

Устаюць і ідуць з песьняй:

Чарвякову наша слава,
Мы чакаем твой загад—
У Заходняй Беларусі
Мусіш наш прымаць парад.

**Матка:** (праходзіць за дзяцьмі) Можа й ваша праўда, хто вас ведае. Пачакаем.

(ЗАСЛОНА).

**Акт III-ці.**

На сярэдзіне лесу палянка, пяюць птушкі, сьвеціць сонца, пастухі сядзяць і гутараць між сабою. Дзяўчаткі гуляюць у каменчыкі (пастушкоў можа быць больш 3-х і менш).

**Язэп:** (да Грышкі) Ты ведаеш дзе я ўчора быў?

**Грышка:** Ну, дзе?

**Язэп:** У Мікітавым садзе; з хлопцамі лазіў. А яблыкі-ж там, ого!

**Грышка:** І не папала вам, не злавілі?

**Язэп:** Пачакай-жа, ня ткні нос наперад, скажу і аб гэтым (да публікі). Пэўна што злавілі, без бяды-ж не абыдзешся...

**Грышка** Так... дык злавілі, значыць, цябе... А як-жа гэта хаця было?

**Язэп:** Як было—проста зусім. Выпала мне першаму лезьці. Ну, значыць, я і палез. Улез гэта я і пачаў трэсьці. Аж чую нешта мяне за лоб як страсянула, дык я толькі ля плоту апыніўся. А тут яшчэ сабакі... Чуць уцяклі мы

**Кацярына:** Трэба яму гэтыя яблыкі (да публікі) Смаркачы цякуць з носа, а яблыкі ходзіць красьці. Скажу...

**Грышка:** Вось і ёй некае дзела, запела, як жаба ў балотцы, сядзі ўжо нечага за гэтымі каменчыкамі, каб ты ня ўстала.

**Кацярына:** І на цябе калі захачу—скажу.

**Грышка:** На табе! ня мела баба клопату, дык купіла парася. Яшчэ вось зачапіся з гэтымі бабамі.

**Язэп:** Кіньце гэту сварку! Як кажа наш „янэр“ Лявонка. Але яны-ж недзе сёньня на экскурсію пашлі.

У гэты час чуваць сьпеў піонэраў:

Мы—кавалі з юнацкім духам
Куём мы будучыны дні—
Наш цяжкі молат ўзьлятае пухам
І ў сталь магутную зьвініць.

**Грышка:** Гэта-ж вунь нейкія едуць, ды хусткі падвязалі чырвоныя. Мусіць, у дзяўчат пазьнімалі. Гэта, пэўна, якія небудзь „наеры“.

**Кацярына:** Хіба ўцякаць трэба ад іх, а то яшчэ задушаць...

**Грышка:** Праўда, праўда...
(пастухі зьбіраюцца ўцякаць).

**Голас.** Куды вы ўцякаеце? Ці-ж вы не пазналі нас.

**Голас:** Ня бойцеся, свае.

Пастухі прыпыняюцца і шэпчуцца: Гэта-ж нашы, няма чаго ўцякаць (выкрыкі).

**Грышка:** Дык і Лявон вось тут!..

ЗЬЯВА II-я.

**Лявон:** (уходзячы на сцэну з піонэрамі). А вы думалі чэрці з балота?!

**Грышка:** А дзе вы гэтыя хусткі пазьнімалі?



**Марылька:** Але, пазьнімалі, вот бак скажа ўжо!

**Лявон:** Мы не такія, каб зьдзіраць хусткі ў каго.

**Кацярына:** А якія-ж гэта бляшкі ў вас на грудзёх?

**Міхась:** Бляшкі і хустачкі мы носім таму, што ідзем разам з сваімі бацькамі і братамі комуністымі і комсамольцамі дабываць лепшае жыцьцё працоўных на зямлі.

**Марылька:** І вы як зразумееце чаму мы носім гэтыя хустачкі і бляшкі—пойдзеце да нас у атрад.

**Пастухі:** Што вы?! Начапіць на горла хустку...

**Лявон:** Вось ня будзем спрачацца, а лепш пойдзем к нам у атрад. Будзем там разам працаваць, вучыцца і гуляць. Будзем рыхтаваць з сябе стойкіх байцоў за справу працоўных, за комуну на ўсім сьвеце. А чаму носім мы значкі—вы хутка пазнаеце. Мы спадзяёмся, што вы як і мы за справу рабочых і сялян будзем стаяць дружна і сьмела.

Гэй, піонэры! (да публікі). Тады толькі наша організацыя будзе моцнай, калі ў яе ўліюцца ўсе дзеці рабочых і сялян. Гэта нам трэба помніць.

**Міхась:** Ну, можа ўжо раздумалі—пойдзеце?

**Пастухі:** Так. Мы згодны. Пойдзем, пойдзем.
(Усе ўстаюць і мітусяцца)

**Лявон:** За справу працоўных, усе піонэры, будзьце гатовы!

**Усе:** (ураз становяцца ў шэраг. На грудзёх выразаныя размаляваныя літары „Заўжды гатовы“ Можна прычапляць да грудзёў і склады з двух літараў)

Заўжды гатовы!

Заслона паступова зачыняецца. Піонэры з песьняй „Маладняк“ сходзяць са сцэны.

Ўпярод зару спаткаем,
Сябры, у барацьбе.
Штыкамі і карцеччу
Пралoжым шлях сабе.

(песьня паступова змаўкае)

КАНЕЦ.

Злажылі вучні 34 Менскай сямёхгадоўкі:
**Г. Савіч, Т. Буравель, Я. Савіч.**



# НАША ЖЫЦЬЦЁ.

## Новыя атрады.

*(Калінінск).*

За апошнія месяцы ў нас прыбавілася яшчэ тры новыя атрады. Працуюць яны ўсё здавальняюча. Прыкладам у гэтых адносінах можа быць IV атрад імя Чарвякова. Працуе ён у самых звычайных умовах. Сваю працу ўлетку праводзіць на сьвежай паветры, па пляну, які намечаны атрадам на падставе агульнага пляну працы організацыі, аддаючы большую ўвагу грамадзкай і ўнутранай працы. Фізвыхаваньне і экскурсіі ў атрадзе як агульныя, так і па зьвеньням таксама добра пастаўлены.

*Кастусь.*

## Організацыя атраду.

*(Вёска Чыгірынка, Чачавіцкага раёну, Магіл. акругі).*

У нашай вёсцы пад кіраўніцтвам ячэйкі ЛКСМБ організаваўся атрад юных піонэраў. 12 чэрвеня мы давалі ўрачыстае абяцаньне перад рабочымі організацыямі і сялянамі аб тым, што мы цьвёрда будзем выконваць заветы свайго дзядулі Ільліча. Зразумела, у нас ня было ні оркестру, ні добрых абставін для гэтае справы, але ад кожнага твару новага піонэра адбіваўся іскрамі водблеск агню, які загараўся ў яго маладых грудзёх, з уваходам яго на новы шлях жыцьця.

Прывітаньні ад мясцовых організацый, нашага шэфу—мясцовай коопэрацыі—яшчэ больш надалі нам агню і веры ў тое, што мы з задачай сваёй справімся.

Пасьля ўрачыстага абяцаньня шэф падарыў нам сьцяг, гальштукі і па сшытку.

Тут-жа мы залічылі ганаровымі піонэрамі сэкратароў райкомаў КСМ і КПБ і загадчыка коопэратыву—шэфа.

Піонэр *В. Д.*

## Атрад яшчэ сьпіць.

Ад самай зімы ў нас няма ніякай працы ў атрадзе. А ўрачыстае абяцаньне мы давалі яшчэ першага мая. Лета ўжо праходзіць, а атрад наш, як спаў, так і сьпіць.

**Ячэйка павінна зьвярнуць большую ўвагу** на працу атраду. Да гэтага часу працуе ў нас толькі адзін павадыр атраду.

У нас пакуль што няма яшчэ і свайго клюбу. Мы маем толькі свой куточак у школе, які найчасьцей заняты рознымі рэчамі настаўніцы.

Кепска стаіць таксама справа і з падпіскаю на сваю часопіс «Беларускі Піонэр». Ніяк не сабярэцца атрад, каб абгаварыць гэтую справу.

Піонэр *Е. Арлоў.*



**Поп:** Як гэта ў комуністыя падацца?
**Піонэр:** Ну, што вы, баця, ашалелі?.. Спачатку ў піонэры запішэцеся...

## Тыдзень у лагерах.

(*23-ці Магілеўскі атрад*).

Доўга чакалі мы таго моманту, калі прыдзецца нам выехаць у лагер. Але вось і прычакаліся. Пры дапамозе свайго шэфа, мы ў сярэдзіне гэтага месяца выехалі ў вёску Водву.

У вёсцы Водве мы правялі вялікую працу. Мы завязалі жывую сувязь з вясковымі дзяцьмі. Нам удалося наладзіць добрыя адносіны з сялянамі. Сяляне вельмі зацікавіліся нашым атрадам і яго працаю. Сяляне сустракалі нас усюды досыць добра.

У вёсцы мы наладзілі вечар, ачысьцілі памяшканьне сельсавету і яшчэ правялі цэлы шэраг іншых работ.

Лагерам усе піонэры засталіся здаволенымі. Папершае, мы добра пазнаёміліся з жыцьцём вёскі, а з другога боку, навучыліся жыць колектывам у палатках. Наш лёзунг: «больш выездаў у лагеры!»

Піонэры: *Калманоўскі*. *Эмдзін*.

## І мы не адстаём.

(*Мяст. Ушач, Полацкай акр.*).

Нядаўна для працы ў нашым атрадзе ячэйка вылучыла яшчэ 2 сваіх сяброў, якія ўзяліся кіраваць зьвеньнямі. Дагэтуль атрад нельга было разьбіць на зьвеньні, бо працаваў у атрадзе толькі адзін комсамолец—павадыр. З піонэраў выбраць павадыроў зьвеньняў мы яшчэ ня можам, бо атрад зусім нядаўна організаваўся і пачаў працаваць.

Цяпер праца наладжана нішто сабе. Выпусьцілі 2 нумары насьценнай газэты «Піонэр». Акуратна адбываюцца заняткі зьвеньняў і збор атраду. У атрадзе сваім мы організавалі ячэйку МОПР. Праводзім экскурсіі і займаемся патроху гімнастыкай.

З недахопаў і хібаў у працы атраду трэба адзначыць—гэта недысцыплінаванасьць і адсутнасьць у патрэбным ліку сваёй літаратуры.

Піонэр *Н. Волкінд*.

## Працу наладзілі.

(*Валынецкі атрад, Полацкае акругі*).

Наш атрад за 4 месяцы свайго існаваньня правёў ужо досыць вялікую працу ўнутры свайго атраду. Мы ўжо выпусьцілі 4 насьценныя газэты «Чырвоны Гальштук». Увесь атрад падзялілі на 4 зьвяны.

Атрад разьвярнуў таксама працу і па-за сьценамі сваёй ячэйкі. Намі было пастаўлена 3 дармовых спэктаклі для дзяцей і сялян.

Дрэнна толькі, што ня маем мы свайго клюбу.

Піонэр *Л. Ісурын*.



**18-ы Нова-Барысаўскі піонэр-атрад з чырвонаармейцамі 4-ага чырвоназнаменага палка ў лягерах.**

## Атрад узмацоўваецца.

(*Вёска Таўкачэвічы, Шацкага раёну, Мен. акр., Атрад імя т. Ігнатоўскага*).

Атрад наш зусім малады. Організаваўся некалькі месяцаў таму назад. Атрад дапамаглі нам організаваць піонэры мястэчка Шацку, якія часта наведваліся ў нашу вёску і вялі працу між дзяцей.

Цяпер атрад налічвае 20 сяброў піонэраў, якія ўжо добра ўразумелі сэнс піонэрскага руху на вёсцы; шчыра працуюць у атрадзе, ўцягваючы ў сваю організацыю і ўсіх іншых дзяцей.

Спачатку ў працы па пашырэньню атраду нам трохі перашкаджалі «бапцісты». Яны спаткалі наш атрад страшэнна няпрыхільна; увесь час хадзілі па хатах і ўгаварвалі бацькоў, каб ня пускалі дзяцей у атрад. Але іх агітацыя ня прынесла жадных вынікаў. Атрад наш аформіўся, вырас і шырыцца. Праца ў атрадзе з кожным днём шырыцца. Павадыр наш добра сьвядомы ў сваёй працы; ён скончыў курсы павадыроў, якія былі адчынены ў Менску.

Піонэр *Вярнікоўскі*.



... Значыцца, ты іх ня выконваеш...

## Пашоў, апусьціўшы нос.

(*м. Семежава, Чыр—кага раёну*).

Адзін раз пытае вясковы хлапец у піонэра:

— Ты выконваеш законы і звычаі піонэраў?

— Я выконваю ўсе законы і звычаі піонэраў,—адказвае піонэр.

— Скажы-ж мне хоць адзін закон, альбо звычай.

—Я, сказаць папраўдзе, ня ведаю ніводнага закону і звычаю так, каб табе расказаць іх...

Значыцца, ты іх і ня выконваеш, калі ня ведаеш.

Піонэр, апусьціўшы нос, пашоў у свой клюб.

*Юнкор*.

## З жыцьця нашага атраду.

(*Нова-Барысаў, завод імя Леніна*).

Ня гледзячы на тое, што атрад наш зусім яшчэ малады—праца, праведзеная ім, досыць значная. Атрад ужо змог добра паказаць усім рабочым і работніцам вынікі сваёй працы. Аўторытэт атраду сярод рабочых даволі вырас.

Уся праца атраду вядзецца ў піонэрскім клюбе. Нядаўна мы абралі імя свайго ідэёвага кіраўніка т. Сталіна.

Наш атрад шэфствуе над вясковым атрадам.

Піонэр *П. Белькінд*.

## Праца Сялібскага атраду.

Наш атрад піонэраў лічыцца ў Сьвіслацкім раёне самым лепшым. Уся праца ў ім ідзе на жыдоўскай мове. Зьвеньняў чатыры; у кожным ужо больш, чым па 15-18 чалавек. Думаем хутка разьбіцца на два атрады, бо ўжо маем болей за 60 піонэраў. Усе дзеці і старэйшыя, бацькі і браты-комсамольцы глядзяць на юных піонэраў з павагай і шчырай любасьцю.

Праца звеньняў ідзе згодна працоўным назвам гэтых зьвеньняў.

Ёсьць у нас і корэспондэнцкі гурток, які толькі што організаваны, але ўжо ўзяўся за працу. Насьценныя газэты выдае рэдколегія разам з корэспондэнцкім гуртком. Маем добры свой клюб.

Піонэр *Я. Герцовіч*.

## Зьвяно за працай.

Наша 3-яе зьвяно 13 атраду „Чырвоны Лётчык“ мае ўжо дзьве модэлі аэропляна. Хутка приступім да пабудаваньня сапраўднага аэропляна, які-б мог лятаць.

Гэта першая праца нашага „Чырвонага Лётчыка“. Спадзяёмся, што і ў далейшай працы нашы маладыя «Лётчыкі» будуць рыхтаваць з сябе будучых сапраўдных лётчыкаў для абароны свайго Саюзу.

Піонэр *А. Круглікаў*.

гор. Мсьціслаў.

## Сход нашых бацькоў.

(*м. Старобіна*).

20-га чэрвеня, у дзень сьвята 3-яе гадавіны піонэраў Беларусі, быў скліканы сход нашых бацькоў. Па першаму пытаньню—„Справаздача працы піонэрскага атраду“, нашым павадыром была адзначана тая вялікая праца, якую наш атрад правёў за гэты кароткі час яго існаваньня. Дзеці вядуць сябе добра, памагаюць у хаце бацькоў, ведаюць усё і даюць прыклад неорганізаваным дзецям.

Пасьля справаздачы пастыпіла шмат пытаньняў: аб будучай працы атраду, аб яго мэтах і г. д.

Асабліва добрае ўражаньне зрабіла на бацькоў справаздача піонэра „Што мне дала піонэрская організацыя“. Ад яго слоў яны ўведалі, што іх дзеці ня вучацца кепскаму, а атрад выхоўвае з іх добрых грамадзян. Пасьля гэтага, бацькамі была выпрацавана пастанова, у якой было адзначана, што шмат дзяцей яшчэ не ўцягнуты ў шэрагі піонэраў і дзеля гэтага яны просяць комсамол яшчэ больш паглыбіць працу сярод іх дзяцей.

З выкрыкам: Няхай жыве піонэрская організацыя! Няхай жыве кіраўнік—Комсамол! мы скончылі вечар.

Піонэры: *Лянда Р.*
*Крайчык Ю.*

## Як мы правялі сваё сьвята.

Вечар, ахвяраваны 3-х гадоваму юбілею нашай піонэрскай організацыі, мы наладзілі сумесна з бацькамі. На вечары было зроблена целы шэраг дакладаў аб піонэр-організацыі як кіраўнікамі, так і самімі піонэрамі. У спрэчках па дакладах выказваліся і бацькі. Спрэчкі былі самыя гарачыя. Адны гаварылі, што атрад нічога не дае добрага іх дзецям, а другія не згаджаліся. Урэшце, была прынята рэзолюцыя, дзе гаворыцца аб тым, што піонэр-організацыі патрэбна пашыраць яшчэ больш. Толькі піонэрскі атрад зможа выхоўваць з дзяцей рабочых і сялян добрых сьвядомых грамадзян нашага саюзу.

Піонэры: *Г. Н. і А. М.*



# Праца нашых шэфаў і клюбаў.

## Падарунак шэфа.

(*м. Шацк, Меншчына*).

Шацкае спажывецкае таварыства шэфствуе над Шацкімі піонэр-атрадамі.

У дзень 3-х гадовага юбілею піонэр-організацыі Беларусі, шэфы падарылі нам пекны сьцяг і 15 гальштукаў.

Мы, піонэры, шлём ім вялікае сваё піонэрскае дзякуй.

*Мясцовы.*

## Дасталі клюб—праца пашырылася.

(*Сялібскі атрд, Сьвіслацкага раёну, Бабр. акр.*).

Пакуль у нас ня было свайго клюбу—праца ішла вельмі вяла. Нам прыходзілася туляцца дзе пападала. Ня было свайго сталага цэнтру, куды-б маглі сходзіцца для працы ўсе дзеці і піонэры.

Цяпер мы маем свой клюб. Праца атраду значна пашырылася. Добра працуюць і зьвеньні і атрад у агульным.

*А. Лібенсон.*

## Зноў распачалі працу.

(*Менск, 1-ы атрад імя 1 Мая*).

У пятым нумары часопісі „Беларускі Піонэр“ быў зьмешчаны допіс аб тым, што ў нас няма клюбу. Цяпер у нас клюб ужо ёсьць, мы зноў распачалі працу. Мы ўжо выдалі два нумары сваёй насьценнай газэты, рыхтуемся да абсталяваньня майстэрні, пачынаем організоўваць пікорскі гурток і інш.

Піонэр *І Мятліцкі.*

## Дапамагаем вясковым піонэрам.

У мінулую зіму наш 58 Менскі атрад узяў шэфства над вясковым атрадам Марынай-Горкі. На зборах свайго атраду мы некалькі разоў ставілі пытаньне аб сувязі з вясковымі піонэрамі. Таксама ставіліся справаздачы абоіх атрадаў аб праведзенай працы. Калі мы добра азнаёміліся з жыцьцём і працаю вясковага атраду—мы пачалі дапамагаць ім у чым на гэта была патрэба. Мы пасылаем ім часопісі і кніжкі.

Піонэры *Гольдзін і Хазанаў.*

## Клюб памяншаецца.

(*Бяседавіцкі атрад, Хоцімскага раёну, Калінінскай акругі*).

Некалькі месяцаў таму назад, мы здабылі сабе клюб. Наш атрад у той час складаўся з дваццацёх чалавек і месца для працы хапала. У апошні-ж час, калі атрад наш стаў павялічвацца і з дваццацёх чалавек выраслі мы да сарака—клюб для такой групы зрабіўся малым. Мы ня маем магчымасьці пабудаваць усіх патрэбных нам куткоў. Трэба цяпер падумаць аб пашырэньні клюбу.

Піонэр *Ахрэмкін*.

## Наш шэф.

(*Старобіна*).

Прайшло ўжо паўгода, як організаваўся наш атрад. Цяжка нам было самім наладзіць працу. Тады мы пачалі шукаць сабе шэфа. Доўга не маглі ніяк знайці яго. Але напасьледак над нашым атрадам узяло шэфства Райпрофбюро. Цяпер праца палепшаецца. Райпрофбюро праводзіць з намі гутаркі аб профсаюзах і іх мэтах, а гэтак сама падтрымоўвае з матар'яльнага боку.

Піонэры: *Крайчык Ю.* і *Паварчын М.*

## Няма клюбу.

(*III Клімавіцкі атрад*).

Да гэтага часу наш атрад працаваў у клюбе пры ваенкамаце. Мы там праводзілі заняткі, агульныя зборы і г. д.

Далей нам не дазволілі працаваць у гэтым клюбе. Цяпер у нашым клюбе працуюць дапрызыўнікі, а атраду прыходзіцца працаваць на вуліцы. Цяпер заняткі ў нас адбываюцца вельмі рэдка. А ўвосень то і ня ведаем, што будзем рабіць, як пачнецца холадна.

Піонэр III атраду

*Н. Бярозкін*.



**Дзіцячы дом у колёніі „Анопаль".**

# АБ УСІМ.

## Ня ведае 4-га закону.

(*Піонэр-атрад пас. Талька*).

Аднаго разу, у часе гульні піонэраў з неорганізаванымі дзяцьмі, піонэрка Ф. Ш. адмовілася гуляць.

— Чаму?

— Таму, што гулялі з намі дзеці не піонэры.

Сорам ня ведаць 4-га закону юных піонэраў.

Пікор. *С. В. Шмідт*.

## Піонэр знаходзіць выйсьце.

(*1-ы атрад г. Клімавічы*).

У нас пры атрадзе маецца свой сад. Сад быў не агароджаны. Мы вытрабавалі жэрдак на агароду, але прывезьці ня было на чым. Тады мы сабраліся і прынесьлі жэрдкі на сваіх плячох і загарадзілі сад.

Пікор *Аксельрод*.

## Рады сваёй газэце.

(*Калодзескі сельсавет, ф-ка, „Праца", Чэрв. раен*).

Кепска было нам без сваёй насьценнай газэты. Ня было дзе адзначыць аб жыцьці свайго атраду.

Цяпер мы ўжо організавалі выданьне сваёй газэты. Вышаў першы нумар.

Піонэры вельмі зацікавіліся сваёй газэтай—чакаюць наступнага нумару.

Піонэр *Р. Фрыд*.

## Ня ўсё разам.

(*гор. Бабруйск*).

У нас некаторыя атрады організавалі ўжо групы дзяцей „Чырвоных Зорак". Як організавалі, дык і пачалі з імі весьці розныя гутаркі па прыкладу атрадаў.

Памойму ня трэба зразу хватацца за гутаркі, а пачаць з гульняў, каб зацікавіць дзяцей.

Ня ўсё-ж разам.

*Ш. Айнбіндэр*.

# ЯК ЗРАБІЦЬ САБЕ СТОЛ, ТАБУРЭТКУ І ПАЛІЧКУ.

У клюбах нашых заўсёды адчуваецца недахват сталоў, табурэтак або палічак. А дзе іх узяць? Зразумела, купіць іх атрад ня зможа. А бяз гэтага дрэнна працаваць.

Але выйсьце з гэтага становішча ёсьць. Мэблю можна зрабіць самому і каштаваць яна будзе зусім танна. Матар'ялам для гэткай мэблі могуць быць самыя звычайныя скрынкі ад розных тавараў. Гэтыя скрынкі можна ня дорага купіць у любым коопэратыве, бо яны там найчасьцей паляцца без аніякай карысьці.

Скрынкі трэба выбраць па магчымасьці добра выструганымі, бяз сукоў, бяз дзірак і наагул гладкія.

Калі скрынка шарахаватая, ня выструганая, то яе трэба разабраць і ўсе дошкі добра выстругаць рубанкам, агладзіць шкуркаю, ці знарочыстаю для гэтага папераю і злажыць зноў. Разьбіраць скрынку трэба асьцярожна, каб не раскалоць дошчак.

Калі ўсё гэта будзе зроблена—скрынку трэба добра вычысьціць, зогладзіць няроўныя часткі і пафарбаваць. Пафарбаваць лепш і прасьцей усяго так званай марылкаю. Гэта фарба прадаецца ў кожнай маскацельнай лаўцы і разводзіцца ў вадзе.

Разьвёўшы, трэба змачыць у гэтай фарбе анучку і абляпіць нашу скрынку роўным слоем.

Добра было-б, каб пасьля таго, як наша зробленая рэч высахне, нацерці яе воскам.

## Як зрабіць стол.

Трэба выбраць падхадзячага разьмеру скрынку з тоўстых дошчак. Скрынка пераварачваецца так, што дно яе служыць накрыўкай стала. Калі скрынка вельмі глыбокая, то сьценкі яе можна зрэзаць (Глядзі мал. № 1, як адзначана тоўстай рыскаю). Адрэзаць трэба роўна, для чаго лепш усяго абмаляваць правільна рыску ў сярэдзіне ці знадворку скрынкі, а потым зьняць тыя дошкі, разрэзаць і пасьля зьбіць зноў.



Мал. 1.

Ножкі для стала робяцца з дошчак, таўшчынёю каля 1 цалі. Шырыня ножак—3 цалі, а даўжыня—28 цаляў.

Верхняя частка ножак павінна быць зрэзана, як паказана на малюнку № 2 і шчыльна прыбіта да краёў скрынкі, прыбіўшы іх цьвікамі з надворнага боку.

Калі ножкі будуць гатовымі, трэба ўмацаваць іх перапонкамі (Глядзі той-жа мал. № 2). Перапонак робяць дзьве і ўстаўляюць у выразаныя дзіркі ў ножках. Дзяля лепшага мацунку робяць яшчэ і трэцюю перапонку, якая зьвязвае паміж сабою дзьве першыя.



Мал. 2,

## Табурэтка.

Дзяля табурэткі бяруць скрынку каля 14 цаляў глыбіні і 10 цаляў шырыні і даўжыні. Сядзеньне павінна быць на 3 ц. шырэй і даўжэй за дно скрынкі.



Мал. 3.

Для ножак трэба ўзяць чатыры гладка выгабляваныя планкі ў 3/8 цалі таўшч. і 1 3/8 цалі шырынёю і 16 цаляў даўжынёю і чатыры планкі тэй-жа даўжыні і таўшчыні, але шырынёю ў 1 3/4 цалі, г. з. на таўшчыню дошкі, бо планкі прыбіваюцца да вуглоў, накладваючыся адна на другую. Накрыўка (калі яна ёсьць) зьнімаецца з скрынкі і скрынка пераварачваецца ўверх дном. Да дна прыбіваецца сядзеньне, якое шырэй з усіх бакоў на 1 1/2 цалі.

(Глядзі мал. № 3).

Пасьля гэтага да кожнага кута прыбіваюць па ножцы так, каб верхні канец кожнай ножкі апіраўся на ніжні бок сядзеньня.

## Шапа.

Выбіраюць скрынку каля 13 ц. глыбіні, 21 ц. шырыні і 33 ц. даўжыні.

Дзьверцы шапы робяцца з накрыўкі скрынкі.

Падрыхтоўваюць 8 брускоў для ножак: 4 брускі ў 1/2 ц. таўшчыні, 1 1/2 ц. шырыні і на 4 ц. даўжэй, чым надворная даўжыня скрынкі, і 4 брускі такой-жа даўжыні і таўшчыні, але шырынёю ў 2 цалі.

Верхняя дошка шапы робіцца на 3 цалі даўжэй і шырэй, чым надворная шырыня і глыбіня скрынкі.

Для дзьверцаў выстругваюць дзьве планкі ў 1/2 ц. таўшчынёю і 1 1/2 ц. шырынёю, але на 4 ц. карацей надворнай шырыні скрынкі. Гэтыя планкі прыбіваюцца да дзьверцаў з унутранага боку для таго, каб дзьверцы былі мацнейшымі.

Далей з скрынкі трэба зьняць накрыўку, палажыць яе на бок і прыбіваць ножкі. Адпілуй ад накрыўкі скрынкі вузенькую палоску такой шырыні, каб накрыўкі маглі шчыльна ўходзіць між ножкамі скрынкі. Пасьля да накрыўкі прыбіваюць планкі.



Мал. 4.

Дзьверцы прывешваюцца на петлях. Ручку можна зрабіць любую з дзерава і прыбіць цьвікамі.

Паставіўшы шапу на ножкі, трэба прыбіць верх так, каб ён аднолькава ўсюды выступаў сваёй паверхняй над ножкамі.

Для таго, каб дзьверцы самі не адчыняліся, можна прымайстраваць кручок і зашчэпліваць іх. У сярэдзіне шапы можна зрабіць палічкі. Трэба прыбіць з бакоў планкі і палажыць на іх дошкі.

Бакі шапы і дзьверцаў могуць быць зроблены з фанэры.

## Палічка.

Выбіраюць скрынку з тоўстых дошчак, даўжынёю ў 20 ц., шырынёю ў 13 ц. і глыбінёю ў 7 ц.

Ад скрынкі адкідаюцца накрыўкі і доўгія бакі. Ад гэтых бочных дошчак адпілуйце вузкія палоскі з канцоў такой даўжыні, каб яны шчыльна ўходзілі ў сярэдзіну скрынкі, а шырынёю, каб былі па разьмеру шырыні бакоў скрынкі.

Правядзеце цяпер алоўкам дзьве рыскі па бакох скрынкі на адлегласьці $2^1/_2$ ц. ад кожнага краю. Цяпер устаўце урэзаныя дошкі ў сярэдзіну скрынкі па адмечанай рысцы. Потым прыбівайце гэтыя палічкі з надворнага боку скрынкі цьвікамі.

Каб палічкі трымаліся мацней, можна пад іх падбіць маленькія планкі. Цяпер бакі скрынкі добра вычысьці і вешай сваю палічку на сьцену. Прывесіць



Мал. 5.

можна пры дапамозе пецель з скуры, або пракруціць у заднім баку скрынкі дзірачкі і ўбіць у сьцяне цьвікі, каб можна было на іх надзець нашу палічку.



# Як правесьці экскурсію за жывёламі.

Каб добра пазнаёміцца з жывёламі, мала яшчэ адных экскурсій. Трэба сабраць жывёлаў, якіх разглядалі на экскурсіі і сачыць за імі некаторы час. Але як іх зьбіраць і як сачыць за імі—пагутарым у другі раз. Цяпер аб самой экскурсіі за жывёламі.

Месца для экскурсіі можа быць лес, поле, луг або балотца. Першыя экскурсіі лепш усяго зрабіць на рэчку або ў балотца: вадзяныя жывёлы больш зацікавяць дзяцей на першых часох. На экскурсію з сабою трэба ўзяць шклянку і сетку, якою трэба будзе лавіць жывёлаў.

На месцы экскурсіі, каля рэчкі, кіраўнік спачатку павінен расказаць экскурсантам аб жыцьці вадзяных жывёлаў і параўнаць умовы жыцьця вадзяных жывёлаў з земнаводнымі. Пасьля гутаркі на гэту тэму, дзеці пачынаюць лавіць сеткаю жывёлін. Нагляданьне за злоўленымі жывёламі лепш усяго рабіць групамі. Дзеля гэтага экскурсантам трэба падзяліцца на тры—чатыры групы. Кожная група абірае якінебудзь адзін від жывёлаў. Калі дзеці правядуць гэткае нагляданьне, тады ўсе групы зьбіраюцца разам і абгаварваюць у гурце кожны від жывёлаў, за якімі яны наглядалі. Робяць параўнаньне будовы цела адных жывёл з другімі. Зразумела, акажацца, што ўсе вадзяныя жывёлы маюць вельмі блізкую сходнасьць паміж сабою, напрыклад: ува ўсіх жывёлаў тоненькія ножкі і няма моцнага шкелету, на які-б апіралася іх цела. Тут кіраўнік экскурсіі павінен растлумачыць, што ўсе целы ў вадзе трацяць частку сваёй вагі і таму вадзяныя жывёлы не патрабуюць моцнага шкелету (касьцяка), бо яны зусім лёгкія.

Далей можна праз павялічальнае шкло (гэта шкло трэба абавязкова дастаць для экскурсіі) разледзяць больш падрабязна пабудову організму тэй ці іншай жывёлы. Тут трэба будзе кіраўніку растлумачыць аб тым, які ўплыў на пабудову організму жывёлін маюць умовы іх жыцьця. Напр., органы дыханьня ў вадзяных жывёлін пабудаваны зусім інакш ад жывёлін зямных.

Пасьля гэтага можна правесьці нагляданьні над земнаводнымі. Дзеля гэтага лепш усяго ўзяць жабу. Тут трэба заўважыць самае галоўнае тое, што яна мае шмат сходнасьці з вадзянымі жывёламі. Гэта залежыць ад таго, што жаба жыве і на зямлі і ў вадзе. Поруч з гэтаю тэмаю, трэба зьвярнуць увагу і на тое, што шмат відаў жывёлаў згінулі толькі таму, што, не змаглі прыстасавацца да ўмоў жыцьця. Вельмі важна, каб тут-жа ўзяць ды разгледзяць усю ўнутранасьць жабы, яе асобныя органы і іх функцыі (працу, якую яны праводзяць, назначэньне).

Такім-жа чынам можна правесьці экскурсію і за чыста зямнымі жывёламі. Галоўнае на што трэба зьвярнуць увагу пры такіх экскурсіях—гэта на афарбоўку шэрсьці тэй ці іншай жывёлы. Трэба расказаць ад чаго гэта залежыць (ад места і ад закону самазахаваньня ад ворагаў).

Пасьля такіх экскурсій з кіраўніком, дзеці будуць, напэўна, самі хадзіць адны без кіраўніка і зьбіраць розныя экзэмпляры жывёлаў для колекцый у кутку свайго атраду ці школы.

*Курц.*



# НАШЫ ГУЛЬНІ.

## Вудачка.

У гульні прымаюць удзел ад аднаго да двух зьвеньняў.

Па сыгналу піонэр, які бярэцца першым вадзіць, раскручвае вяроўку і стараецца канцом вяроўкі, на якім што-небудзь прывязана, зачапіць каго-небудзь з піонэраў. Усё кола адначасна падскаквае. Той-жа, хто сваечасова разам з усімі не падскочыць, будзе затрыманы вяроўкаю і становіцца сам у кола вадзіць вяроўку.

**Месца для гульні.** Невялікая плашчадка, або хата.

**Што трэба мець для гульні.** Вяроўку даўжынёю ў 6 аршын і мяшочак з пяском, або так якую-небудзь рэч, што прывязваецца да канца вяроўкі.

**Разьмяшчэньне гуляючых.** Усе, хто прымае ўдзел, утвараюць кола, пасярод якога становіцца той, хто будзе вадзіць. У гэтага апошняга ў руцэ вяроўка, на канцы якой прывязаны мяшочак з пяском, або што іншае.

## Будзь гатоў.

(*Гульня лагерная*).

Прымаюць удзел ад 2 да 4 зьвеньняў.

Два зьвяны або і больш адпраўляюцца ў дарогу з павадыром. Калі яны дойдуць да мясцовасьці больш-менш падходзячай па думцы павадыра для разьбіўкі лагера, то павадыр, неўспадзеўкі для піонэраў, апавяшчае: „Тут у нас будзе начны прывал“. Тут зьвяно зараз-жа павінна пачаць растаўляць шалашы або распасьціраць палаткі, разлажыць агонь з сухога гальля, наагул рабіць усё неабходнае для стаянкі.

Выйграе тое зьвяно, якое раней усіх скончыць падрыхтоўку, а таксама і тое, у якога раней закіпіць вада ў кацялку над вогнішчам.

**Элемэнты гульні.** Прывучваньне сябе да самастойнага жыцьця.




(*Апавяданьне*).

Яшчэ ня пелі птушкі, калі матка пабудзіла Юзіка гнаць пасьвіць на раніцу каровы.

— Ой, мамачка, яшчэ хоць хвілінку пасплю, пасьля пабудзіце,—шаптаў Юзік, жмурачы і праціраючы худымі кулачкамі вочы.

Але матка з ім не згадзілася хоць і шкода ёй было будзіць Юзіка, якога яна так шчыра кахала. Трэба было гнаць быдла як найраней, бо ўдзень, калі прыгравала сонца, дык зьяўлялася вельмі шмат аваднёў, сьляпнёў ды іншых казюляк, якія кусаюць быдла і гэтым яго непакояць.

Юзік, апроч свае коровы, пасьвіў яшчэ чатыры суседнія, за што яму плацілі па два пуды жыта ад штукі. Матка баялася, каб не ўгнявіць чым-небудзь суседзяў і заўсёды наказвала Юзіку, каб добра пасьвіў каровы, каб ня гнаў іх у шкоду і заўсёды рана будзіла яго, ведаючы тое, што калі суседзі будуць здаволены пастушком, то запросяць і на другое лета пасьвіць іх каровы.

— Уставай, сыночак, уставай! Вось паглядзі, сонца скора ўзыдзе ды й хлопцы-ж пагналі ўжо нядаўна, гані і ты, а то-ж ня добра будзе, не напасеш, галодныя каровы прыгоніш, сорамна будзе,— шаптала маці, схіліўшыся над Юзікам.

Юзік устаў, успырснуў на рукі, а пасьля на твар халоднае вады, выцерся зрэбным скарачом, надзеў шапку і доўгі падзёрты халацік і пашоў выганяць з хлявоў каровы. Сьледам за ім пашла і матка, каб памагчы выгнаць.

— Куды-ж ты пагоніш, у лес ці ў „Пасеку?"—запыталася ў яго матка.

— У лес паганю, там лепш наядуцца,— адказаў Юзік, сьцёбаючы пугаю целку, якая чамусьці неахвотна йшла.

Праз чвэрць гадзіны Юзік прыгнаў каровы на месца пашы—у досыць вільготны і гразкі лес.

— Асюды, Парэцька! Асюды Зьмейка, Красуля!—гукаў Юзік на каровы, гонячы іх на сярэдзіну нізіны, дзе зелянела высокая асака. Каровы жалобна мікалі і неахвотна, раздумліваючы і махаючы хвастамі, шлёпаліся па ліпкай гразі. Юзік увагнаў каровы і супакоены тэй думкай, што яны будуць хадзіць і ня вылязуць на луг, які цягнуўся ўздоўж лесу, прылёг на грудку між двух пнёў, падлажыўшы пад галаву рукаў свайго старога халаціка...



**— Уставай, сыночак, уставай!..**

Сонца ўзышло і загуляла праменямі па верхавінах дрэў. Над галавою Юзіка зьвесіла гальлё гарэшына, а пораўні з гарэшынай стаяла тоўстая высокая асіна і бязупынна шамрэла дрыжачымі блiскучымі лісточкамі. Весела цьвіргаталі ў зялёным гальлі птушкі і забаўлялі Юзіка, закалыхваючы яго сваім сьпевамі. Юзік заслухаўся шопатам гальля; сьпевамі птушак і яго пачаў марыць сон..

— На адну хвілінку засну, ня больш як на адну кароценькую хвілінку, а пасьля ўстану і буду сачыць за каровамі, каб ня пашлі ў шкоду,—падумаў Юзік і пачаў з прыемнай асалодай агортацца сном...

Вось ён уаграмаднай шумнай хаце. Наўкола гамоняць людзі. Усе вясёлыя, здаволеныя. Юзік шукае знаёмых, прызіраецца кожнаму ў вочы. Наперадзе ідуць шэрагамі чырвонаармейцы. Юзік завіхаеццаісьці наперад, бяжыць, сустракаецца з высокім вусатым чырвонаармейцам і пазнае ў ім свайго бацьку. Юзік хапае бацьку за шыю, крычыць: „Татачка, татачка, ты жывы, цябе не забілі?! А мы з мамаю лічылі цябе забітым на вайне з панамі“. Бацька пакрывае тварык Юзіка пацалункамі, прыціскае да шырокіх грудзей, казыча доўгімі, мяккімі, як шоўк, вусамі.

— Я, сынок, маю для цябе падарунак, вось глядзі.

Бацька дастае з кішэні агніста-чырвоны гальштук і завязвае Юзіку.

— Ты, сынок, з гэтага часу будзеш маладым піонэрам! Насі гэты падарунак, ступай сьмела па сьлядох вялікага Леніна і калі вырасьцеш, дык адамсьці за мяне ворагам працоўнага люду.

— Я адамшчу, я адамшчу!—закрычаў, плачучы і ў вялікім захапленьні, Юзік і... прачнуўся, падняўшы галаву і рукі, якія сьціснуліся ў кулакі.

Лісьцё асіны моцна дрыжэла і напамінала Юзіку, дзе ён і што пара ўжо гнаць дамоў каровы. Ён кінуў пагляд туды, дзе ўвагнаў каровы і так спужаўся, што сэрца моцна-моцна застукала, а ў роце зьнікла ўся сьліна. Кароў у нізіне ня было, а толькі глыбокія сьляды чарнелі паміж рыжага куп‘я.

— Дзе-ж каровы? Дзе?—шаптаў Юзік, глытаючы сьлёзы. Ён схапіў пугу і пабег шукаць. Гострыя сучкі сухога гальля калолі яму босыя ногі, яловыя лапкі сьцябалі па твары, але, ня гледзячы на гэта, Юзік так шпарка бег, што праз хвіліну быў ужо на лузе, дзе думаў застаць каровы. Паглядзеў навакол, падбег аж пад Нёман у кусты, на другі бок рэчкі, але кароў нідзе ня было відаць, толькі авадні ды мухі зычна гудзелі, расьсякаючы паветра. Ня трацячы часу, Юзік пабег назад, каб паглядзець на поле, куды маглі зайсьці каровы. Бягучы лясною сьцежкаю, ён час ад часу станавіўся і прыслухоўваўся, спадзяючыся пачуць хаду, або рыканьне кароў, але нідзе нічога ня было чутно. Толькі старыя тоўстыя хвоі памалу шумелі цёмна-зялёнымі верхавінамі. Сьлёзы ў Юзіка падкачваліся да горла, шчымела ў грудзёх. Ён думаў бягучы: Што я скажу маме, як прыду дамоў без аднэй каровы?.. Ай, які я дурны, які нягодны! Такую прыкрасьць прынясу маме... Няхай-бы лепш зараз са мною здарылася вялікае няшчасьце; хай бы воўк выбег, пакусаў мяне. А што будзе, калі кароў няма на полі? Дзе тады шукаць? Тады я лепш не пайду дамоў...

Але дзе-ж я дзенуся, ды з кім-жа будзе мама?.. О, каб мой тата вярнуўся з Чырвонай Арміі, каб ён быў дома, ён-бы мне памог знайсьці каровы, ён бы не сварыўся на мяне. Харошы, добры татка! Але ён ня вернецца, ужо чацьверты год, як няма вестак... А які дзіўны сон... які прыемны сон! Бачыў тату, жывога сапраўднага тату. А гэты падарунак... а словы таты!.. О, я буду маладым піонэрам!..

У той час, калі Юзік прабягаў каля яловага гушчару, да яго вушэй данеслася кароткае „му-у“...

Юзік зразу пазнаў у гэтым „му-у“ сваю паквалістую цёлку. Нібы цяжкі камень скінуўся з яго грудзей і ён кулём пабег у яловы гушчар, дзе застаў сваіх кароў.

Сонца было ўжо досыць высока, калі Юзік прыгнаў каровы ў хлеў. Занепакоеная матка вышла спатыкаць Юзіка і запыталася чаму так доўга забавіўся. Юзік толькі пасьля, сьнеданьня аб усім сказаў матцы:

— Ты ведаеш, мама?! Сягоньня я не дагледзіў кароў, уцяклі ад мяне ў гушчар, але за тое я бачыў дзіўны сон, бачыў свайго тату, які згінуў на вайне з панамі. Тата даў мне дарагі падарунак і казаў адамсьціць ворагам. І я адамшчу, дарагая мамачка, я адамшчу!

Вочы ў маткі зрабіліся вільготныя, на белых палатняных шчоках заблішчэлі сьлёзы. Яна ахапіла Юзіка поглядам глыбокага матчынага каханьня, памкнулася прыцягнуць да сябе, прыціснуць да грудзей, але ён, як легкі матыль, у момант апынiўся на двары і, сьпяваючы „Жураўля“, пабег у комсамольскі клюб, каб даведацца, калі будзе організаваны ў іх атрад юных піонэраў.

*Язэп Вір.*



# Што піонэр павінен помніць, каб скарб здароўя свайго поўніць.

Гаворыць мудрае прыслоўе,
Што лепшы скарб—гэта здароўе.
Каб быць заўсёды нам здаровым,
Бадзёрым, чыстым і вясёлым
І скарб, каб гэты вечна поўніць,
Вось што трэба нам запомніць:
Каб ня было гразі пад рылам,
Устаўшы рана, мыйся мылам.
Ня будзеш знаць агіды-мук,
Як будзеш мыць і твар, і рукі.
Шыю, голаву і вушы
Вымый чыста ад парушша.
Вымый рот і вычысьць зубы,
Абцірай пад'еўшы губы.
Доўга спаць няма карысьці:
Гультаём ты можаш выйсьці.
Трэ' любіць і працаваць,
Але ў пору аддыхаць.
Працаваць-жа цераз меру—
Не карысьць, і ты паверыш.
Сваю спальню ты праветры,
Каб ачысьціць ў ёй паветра.
Як устанеш ты з пасьцелі
Адчыняй і вокны й дзьверы.
Прывыкай ты ноччу й днем
Спаць з адчыненым вакном.
Пыл на лаўках і з прадметаў
Мокрым венікам абметай.
Каб было ў хаце чыста—
Непатрэбнае ўсё выстаў;
Дай сабе чым больш прастору—
Век тады ня будзеш хворы.
Гані ўсіх жывёлін з хаты:
Сьвіньні, куры й парасяты.
Смурод ад іх стаіць вялізны
(Сушыць ня трэба і бялізны).
І чыстата ў цябе такая—
Навек здароўе захавае.
Слухай вечна ты навукі:
Перад ежаю мый рукі,
Ды ня пі сырой вады—
Гэта помні заўсяды.
Каб ня знаць дурной прычыны,
Ня еш нясьпелай садавіны.
Чуеш ты?—таксама весьці—
Сырым варыва ня есьці.
Будзь заўсёды асьцярожным
І ня еш чаго ня можна,
Насі чыстай ты адзежу,
Мый пасуду перад ежай.
З якой небудзь там паскудай
Ты ня еш з аднэй пасуды.
Як спацееш, то тады—
Ня пі сьцюдзёнае вады.
Помні гэта заўсяды—
Ўберажэшся ад бяды;
Будуць моцнымі вантробы,
Век ня будзеш знаць хваробы
І здаровым так, як лёд,
Будзеш жыць ты з году ў год.

*Т. Шыбко.*

## Шагай-жа дружна, піонэр.

(*На матыў „Наш паравоз“*).

Шагай-жа дружна, піонэр,
Пад громы барабана.
Ідзём к апошняй мы сьцяне
Комуны доўгажданнай.
Грымі, зьвіні, юнацкі кліч:
Шырэй, шчыльней, атрады!
Мы верым: што на ўсёй зямлі
Працоўных будзе ўлада.
Узьнялася новая зара
Над сьветам зьдзеку й цемры.

Шагай-жа дружна раз, два, раз
К Комуне, піонэры!
Мы дзеці вёсак, гарадоў—
Сыны працоўнай раці.
Кліч юнакоў: Заўжды гатоў,
За новы сьвет змагацца!
Шагай-жа дружна, піонэр,
Усьлед за комсамолам.
Ідзём к апошняй мы сьцяне
Комуны сьветлай вольнай.

**А. Я.**



# НАСЬЦЕННАЯ ГАЗЭТА

## У ПІОНЭРСКІМ АТРАДЗЕ.

Ва ўсёй піонэрскай працы самае значнае месца займае свая насьценная газэта. Але нашы піонэрскія насьценныя газэты да гэтага часу ня маюць яшчэ агульнага кіраўнічага пляну, па якому павінна будавацца газэта. Дзяля гэтага найчасьцей мы сустракаем зусім няцікавыя насьценныя газэты, якія мала чаго даюць для атраду. Мы маем цэлы шэраг газэт, дзе шмат месца адводзіцца розным палітычным здарэньням. Гэтыя здарэньні найчасьцей высьвятляліся зусім нездавальняюча. А справа ў тым, што піонэры проста бралі апошнія газэты і сьпісвалі з іх розныя заметкі на палітычныя тэмы. Такіх заметак давалі досыць шмат і вельмі мала цікавых заметак з свайго жыцьця.

Бязумоўна, нельга сказаць, каб усе нашы насьценныя газэты будаваліся па нейкаму шаблённаму пляну. Але ўсё-ж такі на практыцы мы пераканаліся ўжо, што кожная такая газэта павінна мець некаторую сыстэму і плянавасьць. Гэтая сыстэма павінна будавацца ў такім духу, каб газэта, прытрымліваючыся яе, была заўсёды жывой, цікавай і карыснай, як для піонэраў, так і для ўсіх дзяцей неорганізаваных. Як пабудаваць такую цікавую газэту, мы пастараемся адказаць нашым таварышам піонэрам у наступным артыкуле.

Раней за ўсё трэба ведаць пры кім існуе і кім выдаецца насьценная газэта.

*Насьценная газэта павінна выдавацца атрадам праз рэдколегію.* Рэдколегія зьяўляецца выканаўчым органам, які практычна праводзіць у жыцьцё выданьне газэты. Савет атраду кіруе працаю рэдколегіі так, як і ўсёй іншай працаю атраду. Савет атраду заслухоўвае справаздачу рэдколегіі, праглядвае пільна ўсе нумары і ацэньвае каштоўнасьць газэты.

Цяпер разгледзім другое пытаньне:

### Як зрабіць газэту найбольш цікавай.

Тут справа йдзе як аб надворнай прывабнасьці газэты, так і аб зьмесьце яе. З надворнага боку газэта будзе цікавай тады, калі ў ёй будуць розныя ілюстрацыі да артыкулаў, застаўкі (прыгожа намаляваныя загалоўкі, адпавядаючыя духу артыкулу), канцоўкі (розныя малюначкі, занатоўкі з піонэрскага жыцьця, якія зьмяшчаюцца ў канцы артыкулаў) і т. д. З гэтай прычыны рэдколегіі на гэты бок выданьня трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу. Кожны загаловак артыкулу трэба пісаць новай фарбаю і йнакшаю ад тэй фарбы, якой напісаны артыкул. Апрача гэтага, загаловак трэба напісаць інакшым стылем, другім, як кажуць, шрыфтам (літарамі). Гэта робіцца для таго, каб можна было зразу адрозьніць адзін артыкул ад другога. Калі-ж усе артыкулы і загалоўкі будуць напісаны аднэй фарбаю і аднолькавымі літарамі—газэта будзе зусім шэрай, аднастайнай і няцікавай з надворнага боку.

Агульны загаловак газэты з назваю лепш усяго кожны раз маляваць новы; назву, зразумела, трэба астаўляць. Гэты загаловак павінен быць прыстасаваны да зьместу, або, як кажуць, духу нумару. Напрыклад, калі газэта выдаецца да якога небудзь юбілею рэволюцыйнай падзеі, то загаловак, бязумоўна, павінен быць інакшы ад таго, які мы зробім у звычайным нумары. Апрача гэтага, загаловак, а разам і малюнкі трэба прыстасоўваць да пары году. Калі газэта выдаецца зімою—трэба браць для малюнкаў зімовы выгляд: сьнег, лёд, язда на лёдзе і г. д., калі-ж летам, то бярэцца стылізацыя летняй прыроды, лагераў, гульняў у лагерах і г. д.

Усе артыкулы газэты разьмяшчаюцца ў колёнках (слупкох). Слупкоў гэтых на лік можа біць па рознаму, гледзячы па разьмеру газэты. Слупкі адмяжоўваюцца адзін ад другога палоскамі, намалёванымі рознымі фарбамі.

Фарбу лепш усяго браць сінюю, зялёную, чорную і разьведзеныя зьмешаныя. Жоўтай і карычневай фарбы лепш усяго ня ўжываць.

Цяпер—

### Аб зьмесьце газэты.

Газэта павінна выходзіць рэгулярна. Яна павінна адбіваць у сабе ўсе тыя чарговыя задачы ў працы атраду, якія ў сучасны момант маюцца горш за ўсё, калі газэта выдаецца выпадкова ад кампаніі да кампаніі. Зьмест газэты павінен быць добра разьмеркаваны па аддзелам.

Якія-ж аддзелы трэба ўнесьці?

Самымі галоўнымі аддзеламі павінны быць: „*У зьвеньнях і атрадзе і грамадзянская праца піонэраў*“. Гэтыя аддзелы павінны добра высьветляць усе бакі працы піонэраў, а з гэтай прычыны яны павінны мець чым больш сваіх корэспондэнтаў (дапішчыкаў).

Далей. Газэта павінна высьветляць становішча дзяцей і піонэр. організацый ва ўсім сьвеце. Для гэтага аддзелу можна браць кароценькія заметачкі з часопісяй і газэт і перадаваць іх вельмі проста, зразумела, лепш усяго з малюнкамі, дыяграмамі і г. д.

Палітычнай хронікі ня трэба зьмяшчаць у газэце. З міжнародным становішчам піонэры павінны знаёміцца па газэтах. Лепш усяго замест гэтага аддзелу даваць цікавыя навіны з навукі і тэхнікі і часамі асобныя моманты з палітычнага жыцьця, больш важныя. Увесь гэты матар‘ял павінен зьмяшчацца ў аддзеле „*Па ўсяму сьвету*“.

Адно з галоўнейшых месц у газэце займае „*сатырычны аддзел*“. Гэты аддзел павінен з аднаго боку весяліць піонэраў, а з другога і „падцягваць“ іх.

Літаратурны матар‘ял разьмяшчаецца па ўсёй газэце і асобна ў аддзел не вылучаецца.

Паштовай скрынкі ў газэце не раіцца заводзіць. Усе дапішчыкі, якіх ня зьмешчаны матар‘ял, жывуць тут-жа разам у атрадзе і з кожным з іх можна пагаварыць асобна.

Час ад часу трэба даваць у газэце аддзел *„Піонэры-шэфы“*. Гэты аддзел павінен высьвятляць працу піонэраў у падшэфнай вёсцы, у чырвонай арміі і г. д.

Вось галоўныя аддзелы—аддзелы нашай газэты. Усе яны могуць і ня быць у кожным нумары. Некаторыя з іх могуць быць апушчаны ў адным нумары, а ўведзены ў другім, калі на гэта ёсьць патрэба. Таксама аддзелы могуць мяняцца месцамі, каб ня было аднастайнасьці.

Цяпер—

### Аб дапішчыках.

Дапішчыкам у сваю газэту павінен быць кожны піонэр. Але гэтага мала. Дапішчыкамі трэба старацца ўцягнуць і неорганізаваных дзяцей, якія стаяць блізка к атраду і ходзяць на зборы. Можна таксама прыцягнуць у некаторых выпадках да гэтае справы і партыйцаў і комсамольцаў, калі гэта патрэбна.

І апошняе, што патрэбна і неабходна заўважыць— гэта адносна перадавіцы (першы артыкул у газэце). Ня трэба пісаць перадавіц аб розных „стабілізацыях“, капіталізацыях. Гэта перадавіца падыходзіць толькі да нашых цэнтральных газэт. Вам патрэбна даць перадавіцу аб чарговых задачах працы атраду.

Вось, прыблізна і ўсе самыя галоўныя ўвагі аб тым, як павінна будавацца насьценная газэта.

Мы спадзяёмся, што працаўнікі піонэрскіх насьценных газэт прышлюць у рэдакцыю свае думкі наконт закранутага пытаньня і прышлюць рэцэнзіі на свае насьценныя газэты, з адзнакай добрых і дрэнных бакоў апошніх.

**П. Хэйфец.**

# ШТО ЧЫТАЦЬ.

**П. Дорахаў—„Как Петрунька ехал к Ильичу“.** Бібл. „Юного Пионера“ выд-ва „Новая Москва“ стар. 45 з малюнкамі. **Цана 25 к.**

Дзіцячы дом. Дзеці даведваюцца а сьмерці Леніна. Пятрусік задумвае пабачыць Ільліча, хоць няжывога ў труне. Уцякае з дзіц. дому, знаёміцца з двумя бяспрытульнымі хлапчукамі. Яны дапамагаюць Пятрусіку даехаць да Масквы. Два разы прахадзіў Пятрусік каля маўзалею Ільліча. Зьдзейсьнілася яго мара і ён з дапамогаю бяспрытульных варочаецца назад у свой дзіцячы дом.

Такі зьмест апавяданьня. У ім апісваецца хлапчук, які цьвёрда правёў задуманую справу, апісваецца жыцьцё бяспрытульных дзяцей, якія заўсёды гатовы дапамагчы любому, абы ён быў ня буржуй.

Гэтае апавяданьне ў аснове сваёй пераведзена на кіно-фільму пад гэтаю ж назвай.

**С. Аўслендэр—„Прав на север!“**—П'еска ў 3-х дзеях, выд. „Детский Театр“, стар. 36. **Цана 30 к.**

Лёгкая і разам з гэтым захапляючая п'еска з вершамі і песьнямі. Для ўсіх песьняў маюцца ноты. Маюцца невялічкія ўказаньні да пастаноўкі. П'еску можна паставіць у любым памяшканьні і на плашчадцы. Напісана на даволі лёгкай мове.

**А. Ульянава—„Ул. І. Ленін“.** (дзіцячыя і школьныя гады). Бібліотэка „Юного Пионера“, выд. „Новая Москва“, стр. 30. **Цана 10 к.**

Старэйшая сястра Ўл. Ільліча апісала свае ўспаміны аб дзіцячых і школьных гадох вялікага правадыра працоўных. З гэтай кніжачкі мы даведваемся, што Ўл. Ільліч быў заўсёды вясёлым, рухавым і вельмі здольным да ўсяго хлапчуком, што ён добра вучыўся і стараўся дапамагчы сваім таварышам. Ён ува ўсім стараўся пераняць добрыя якасьці ад другіх, асабліва ад свайго Алеся, якога павесіў царскі ўрад. Апісана таксама шмат розных выпадкаў з жыцьця Ільліча ў гэтыя гады.

Шкада толькі, што кніжка выдана на дрэннай паперы і без малюнкаў.

**А. Цюльмін—„Марс—старший брат земли“.** Бібліот. „Юного Пионера“, выд-ва „Молодая Гвардия“. Стар. 24, з малюнкамі. **Цана 16 к.**

Колькі розных казак апавядаюць аб Марсе, колькі розных апавяданьняў і романаў напісана аб ім! І аб тым, што на Марсе жывуць людзі, і аб тым, што Марс спаткаецца з зямлёю і заваюе яе...

Шмат гутаркі аб Марсе і сярод вучоных. Марс самая бліжэйшая ад зямлі плянэта (нямігаючая зорка). І як ні шмат пацелі ўжо вучоныя над вывучэньнем Марса, а ўсё-ж такі ня ўсё яшчэ дасканала вядома навуцы аб Марсе.

У невялічкай кніжачцы А. Цюльміна падрабязна і проста абмалёўваецца адкуль пашла назва Марс, як яго вывучаюць і як яго лепш вывучваць. А гэтак сама тут пададзены ўсе тыя весткі, якія ўжо маюцца аб Марсе.

Перш, чым брацца за „тоўстыя“ кніжкі на гэту тэму, лепш узяць і прачытаць гэтую лёгкую і цікавую кніжку А. Цюльміна.

*Б. Буравін.*

Рэдколегія: А. Якімовіч, Л. Лабадаеў, П. Хэйфец.

Выданьне: НКА БССР.




# Жарты, задачы і загадкі.

**(Пад рэдакцыяй І. М. Беневоленскага).**

## Жартоўныя пытаньні.

1. Хто бачыць ззаду таксама, як і сьпераду?

2. Якія рыбы карацей другіх (каб прышлося рыбы мераць адна з другою)?

3. Як напісаць усяго 7-ю літарамі два сказы—чатыры словы: «замарожаная вада» і „сухая трава?“

## Задача літараў № 3.

(Піонэра Фрыда).




Гэтыя слупкі перастаў так, каб можна было прачытаць у строчку лёзунг, які выкінула Ком. Партыя і які ўсім нам так вядомы цяпер. (Перастаўляць літары ў слупкох няможна).

## РЭБУС.




## Шарада.

Першы склад шукай у лютым,
(Ёсьць у клюбах і ў дзюбне);
Не знайці яго ў вакне—
Ані ў цэлым, ні ў разьбітым.
Два маіх апошніх склада
Шукай ў назвах:
Петраграда-Ленінграда.
Дзе-ж плянэт і зорак шмат,
Дарагі мой юны брат,
Там блішчыць мая шарада.

## Задачка № 2.

Разрэзаць квадрат на 4 роўныя часткі так, каб у кожнай было па 9 манет на роўны лік (суму).

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 2 | 2 | 3 | 1 | 3 | 1 |
| 2 | 1 | 1 | 2 | 1 | 2 |
| 3 | 5 | 5 | 5 | 2 | 1 |
| 2 | 1 | 3 | 1 | 5 | 2 |
| 1 | 2 | 5 | 3 | 1 | 5 |
| 3 | 1 | 3 | 1 | 2 | 1 |

## Хто разьвязаў задачкі з папярэдніх нумароў.

Задачку № 2 з № 6 разьвязалі: **Рыгор Старажук** і IV Клімавіцкі атрад (разьвязаў колектыўна)—**Ленін і Маркс**. Рэбус з № 6 разьвязалі: піонэрка Глівінскага вясковага атраду, Бар. акр., **Кацярына Матаровіч** і IV Клімавіцкі атрад. (Загляне сонца і ў наша ваконца). Адказы на рэбус атрыманы ў адзін дзень і аднэй поштаю. Да здачы ў друк часопісі больш адказаў ня было. З гэтай прычыны рэдакцыя высылае дармовыя два нумары: Кацярыне Матаровіч і IV Клімавіцкаму атраду.

# ПРАШУ АДКАЗАЦЬ.

### Запытаньне.

*М. Вярнікоўскі.* Як зрабіцца пікорам і хто ім можа быць?

### Адказ.

Пікорам лічыцца кожны піонэр, які піша допісы ў сваю насьценную газэту, ці сваю часопісь. Калі ў атрадзе маецца шмат пікораў, яны організуюць свой пікорскі гурток, дзе разам вучацца пікорскай справе.

*Раман Францаў.* Ці можна пасылаць допісы ў „Белар. Піонэр“ на расійскай мове, калі хто яшчэ добра ня ведае беларускай.

### Адказ.

Рэдакцыя да гэтага часу атрымала толькі 4 допісы на расійскай мове. Гэтыя допісы былі пераложаны рэдакцыяй і зьмешчаны. Зразумела, кожны допіс можа быць перакладзены і зьмеш[illegible] ня гледзячы на якой ён мове напісаны.

*Яго-ж.* Што трэба рабіць з тым піонэрам, які ня выконвае загадаў павадыра атраду.

### Адказ.

Справу ў такім выпадку трэба разглядзяць на агульным зборы атраду, і калі піонэр вінават у тым, што ён дрэнна сябе вядзе—яму трэба даць таварыскі выгавар, а калі і гэта ня будзе памагаць тады можна й выключыць умоўна з атраду.

*Яго-ж.* Як трэба весьці працу атраду, калі няма клюбу?

### Адказ.

Самае першае—гэта трэба дагаварыцца з мясцовымі ячэйкамі КСМ і КПБ(б) аб тым, каб падшукаць дзе небудзь для атраду клюб. Бязумоўна, яны вам у гэтым пойдуць насустрач і дапамогуць.

*Б. Рабіновіч.* Ці можна выпісаць часопісь „Беларускі Піонэр“ з першага нумару да апошняга?

### Адказ.

Можна. Апрача гэтага, усе нумары „Беларускага Піонэра“, якія ўжо вышлі, прадаюцца ва ўсіх кнігарнях Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва.

*Я. Воранаў.* Ці можна праз пошту паслаць грошы ў Цэнтральны Дзіцячы Коопэратыў, каб купіць кніжкі, ці абавязкова купляць толькі ў коопэратыве непасрэдна?

### Адказ.

Можна выпісаць сабе патрэбныя кніжкі праз пошту. Сьпіс кніжак і цану вы знойдзеце ў часопісі „Беларускі Піонэр“ № 4.

*Яго-ж.* Як можна выпісаць часопісь „Беларускі Піонэр?“

### Адказ.

Зайдзеце ў бліжэйшае паштовае аддзяленьне і аддайце ім грошы для пераводу па адрасу. *Менск, Аддзел распаўсюджаньня Дзярж. Выд. Беларусі.*

Не забудзьцеся адзначыць пры пераводзе, што выпісваеце часопісь „Беларускі Піонэр“.

*Яго-ж.* Што азначае сабою слова „Статут?“

### Адказ.

Статут—гэта, значыць, програма, правілы, па якім будуецца якая-небудзь організацыя, мэты і задачы організацыі.

У мове маскоўскай таксама ўжываецца слова статут у гэтым-жа значэньні.

Наша піонэрская організацыя мае свой статут, які прадаецца ва ўсіх кнігарнях і каштуе ўсяго 3 капейкі.

*І Русак.* Дзе можна купіць піонэрскі значок і гальштук?

### Адказ.

У кожным піонэрскім коопэратыве. Калі ў вас няма свайго коопэратыву—можна дагаварыцца з мясцовым коопэратывам, каб ён закупіў у Менску патрэбны лік вам гальштукаў і значкоў. Выпісваць самому ў „Цэнтральным Дзіцячым Коопэратыве“ паасобку няма рахунку, бо будзе даражэй каштаваць (перасылка).

*Яго-ж.* Ці можа піонэр, які ўжо даў урачыстае абяцаньне, хадзіць на зачыненыя комсамольскія сходы?

### Адказ.

Ня можа. Хоць такія зачыненыя сходы бываюць вельмі рэдкімі.

*Г. Баркан.* Ці будзе адчынены ў часопісі „Беларускі Піонэр“ куток авіацыі?

### Адказ.

Бязумоўна, будзе. Рэдакцыя просіць усіх піонэраў-авіатараў слаць матар'ялы па гэтату пытаньню.

### Адказы.

*Навасельскаму.* Допіс „Будзем падрыхтаваны да сьвята“ спазьніўся. Друкаваць ня будзем.

*Ісурыну.* Невядома аб якім атрадзе вы гаворыце. Пішэце другі раз з адрасам.

*Ефраменка Л.* Невядома аб якім атрадзе ты гаворыш. Пішы з адрасам.

*Мазевічу.* Верш „Наперад“ ня пойдзе. Рэдакцыя раіць табе пісаць лепш прозаю, бо проза ў цябе нішто сабе ўдаецца. Апавяданьні будзем зьмяшчаць.

*Р. Фрыду.* Частушкі не падыходзяць да друку: слабаватыя і неапрацаваныя. Трэба больш уважна адносіцца да вершаў і ведаць правілы пісаньня. Дзеля гэтага табе рэдакцыя раіць пачытаць падручнік па тэорыі славеснасьці Сямёнава і больш пачытаць вершаў вядомых ужо нашых поэтаў, як Янку Купалу і Маладнякоўцаў.

*Усім іншым нашым дапішчыкам.* Ня зьмешчаныя допісы ў гэтым нумары будуць надрукаваны ў чарговым, або будуць дадзены на іх адказы, калі не падыходзяць да друку.



# Здарэньне з піонэрам у лагерах.



1.

Касы над бяздоньнем
Распусьціў аер.
Над ракою соннай
Дрэмле піонэр.

Паплавок-суніца
Ў ціне патануў.
Дрэмле смуглаліцы,
Дрэмле і, заснуў...



2

Заснуў і сьніцца піонэру:
Паўзе далінаю туман,
А у тумане цёмна-шэрым
На Марс імчыцца яраплян.

І вось насустрач піонэру—
Дзікар плянэтнае красы.
Спужаўся хлопца, не паверыў...
Аж дыбам сталі валасы.



3.

Пропэльлер рогатам рачога,
Матор раве драпежным зьверам.
А вецер, вецер плюшчыць вочы
— На землю мчыцца піонэр

Пад ім лясы, сінеюць горы
І вербы хіляцца ад ветру.
А ён у сонечным прасторы
Імчыцца віхрам між плянэтаў.



4.

Над люстрам вод ружова-сініх
Між вербалоз гусьцей, гусьцей.
Плыве туман—бялявы іней,
Плыве і сьцеле бель-пасьцель.

А ў небе ціха, на палянах
Міргаюць дзе-ня-дзе агні.
Рыбак між цінаю заспанай
Пашоў на дно—уніз, уніз...

Вудзільна рыба здрыганула
І тоне, тоне паплавок.
І хлопца хвалі агарнулі,
Набеглі людзі з паплавоў.

**П. Вяскоўы.**